

# Навіны БНФ

**нумар 1-2 (89-90)**
4 лютага 2006 г.



*Connecting people... - (анг.) Злучае людзей

# Мілінкевіч наперадзе

Завяршыўся збор подпісаў грамадзянаў за вылучэньне Аляксандра Мілінкевіча кандыдатам у прэзыдэнты. У падтрымку яго кандыдатуры было сабрана 256 652 подпісы грамадзянаў Беларусі. У тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі здадзена больш за 200 000 подпісаў.



# Пад пагрозай закрыцьця

Днямі Партыя БНФ атрымала другое запар пісьмовае папярэджаньне Міністэрства юстыцыі па двух пунктах. Першае папярэджаньне было атрыманае ў сьнежні.

Першым пунктам Міністэрства юстыцыі патрабуе да 1 сакавіка зарэгістраваць хоць бы адну з трох абласных арганізацыяў партыі, што ня маюць афіцыйнага статуса. Адзначым, што гэта Гарадзенская, Гомельская й Магілёўская абласныя арганізацыі.

Рэгістрацыі былі скасаваныя ў зьвязку з тым, што ўлада ў апошні час пазбавіла рэгістрацыі больш 70 партыйных суполак у гарадах і мястэчках, што месьціліся на прыватных кватэрах жыхароў.

Другое папярэджаньне Мін'юста зьяўляецца падставай для падачы зыска ў суд аб ліквідацыі Партыі БНФ. Калі партыя ня здолее вырашыць пытаньне з рэгістрацыяй абласных структураў да 19 сакавіка (мараторы на прыпыненьне дзенасьці партыяў дзейнічае згодна з заканадаўствам падчас выбарчых кампаніяў), Міністэрства юстыцыі можа падаць у суд.

Дадамо, што ўжо працяглы час кіраўнікі абласных арганізацыяў Партыі ня могуць дамагчыся рэгістрацыі суполак ў нежылым фондзе, бо арэндадаўцы паўсюль адмаўляюцца здаваць памяшканьні ў арэнду Партыі БНФ.

Другі пункт папярэджаньня камэнтаваць досыць складана. У ім сьцьвярджаецца тое, што Партыя БНФ зьвярнулася ў выканкамы з патрабаваньнем даць тлумачэньні наконт фармаваньня ўчастковых выбарчых камісіяў. Дзе тут міністэрства юстыцыі бачыць парушэньне закону аб выбарах, абсалютна незразумела.

Партыя зьбіраецца абскардзіць папярэджаньне ў судовым парадку.

**Рэдакцыйная Рада**

***Вінцук Вячорка***

# НАПЯРЭДАДНІ

Нават ня верыцца, што, наставіўшы перад сабой далёкасяжную й нялёгкую мэту, мы здолелі гэтульki зрабіць дзеля яе асягненьня.



**Сапраўды. Мы:**

- прынялі правільнае стратэгічнае рашэньне падтрымаць Аляксандра Мілінкевіча;
- зладзілі больш як сотню раённых сходаў;
- правялі пераможны Кангрэс;
- стварылі дзеяздольную пяцітысячную ініцыятыўную групу;
- сабралі дзьвесьце тысячаў подпісаў;
- паднялі рэйтынг пазнавальнасьці Мілінкевіча да 70%, а рэйтынг папулярнасьці з паўтара да 24% (зьвесткі на сярэдзіну студзеня).

Цяпер чакаем вынікаў рэгістрацыі. Але ў кожным разе мы ня зьменім стратэгіі. Задача дайсьці да мільёнаў кватэраў ды іхных насельнікаў і паказаць ім альтэрнатыву.

Я зьбіраў подпісы ў сваім Зялёным Лузе. Пакінуў меншую дачку коўзацца на лёдзе, а сам пайшоў у суседнюю хрушчоўку. Спускаюся з паверха на паверх - вынік нулявы. Хто не адчыняе, хто аднекваецца, некаторыя старыя лукашыствуюць. Званю ў кватэру на першым паверсе жанчына чысьціць зубы й скрозь пасту кажа: зайдзіце пазьней. Рызыкнуў. Вынік: спадарыня Тамара, па прафэсіі сацыяльны пэдагог, гаваркая й учэпістая, угаварыла большую палову пад'езду. "Вось што, Ленка. Ты ў дэкрэце, ніхто табе нічога ня зробіць. Падпісвайся й бацьку скажы". Той бацька-пэнсіянэр так і не падпісаўся, хоць пацíху мне сказаў, што разам з жонкай за Мілінкевіча прагаласуюць. А дачка яго, настаўніца Алена, што чакае дзіця, падпісалася. Выснова: як ішоў чужы баяліся. Як патэлефанавала свая – пераадолелі страх, і выявілася, што нас у тым пад'езьдзе большыня!

Усё ж галоўная праблема не праслаўтая "стабільнасьць" і не фэномэн "новых лукашыстаў", якія знайшлі сабе нішы, крыху зарабляюць і ціха сядзяць, абы не чапалі. Галоўнае – гэта страх дэмакратычна, па-нашаму настроеных людзей. Пераадолець яго ў людзкіх душах да трэцяй нядзелі трэцяга месяца можна толькі ўпартаю працаю без выходных і вольных вечароў. Задача ня толькі падняць рэйтынг Мілінкевіча прынамсі да 55%. Самым фактам сваіх хаджэньняў, пікетаў, выездаў у рэгіёны мы насьмельваем людзей. Калі гэта ўдасца, 19 сакавіка можа пачацца адлік новага часу ў беларускай гісторыі.


НавінЫ БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Кастусь Козел

№1-2(89-90), 4 лютага 2006 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі

# Валер Мазынскі: Палітык нараджаецца з практыкі



Прайшло дакладна чатыры месяцы ад дня абраньня Аляксадра Мілінкевіча адзіным прэтэндэнтам ад дэмакратычных сілаў. Ён уваайшоў у вялікую палітыку. Ці зьмяніла яна Мілінкевіча-чалавека? Сябар Аляксандра Мілінкевіча, адзін зь найвядомейшых і славутых беларускіх тэатральных рэжысэраў Валер МАЗЫНСКІ, які адказвае ў штабе адзінага прэтэндэнта за яго імідж, кажа, што так. А ў чым менавіта? І ці ў лепшы бок?

**Што дало й дае галоўныя зьмены ў характары Аляксандра Мілінкевіча за апошнія чатыры месяцы?**

Абсалютна правільна тое, што ён з тэарэтыка пачаў ператварацца ў практыка. Ён стаў наведвацца ў рэгіёны, стаў браць інфармацыю пра іх не зь гістарычных зьвестак , а сваімі ўласнымі нагамі пачаў пратоптываць рэгіянальныя сьцежкі. Гэта надало яму больш эмацыйнага адчуваньня тых праблемаў, якімі жывуць людзі, а яшчэ ў большай ступені прагу шукаць і знаходзіць тыя аргумэнты ў размовах зь людзьмі, якія маглі б зьнішчыць ўплыў замбаваньня, якім пакрыла Беларусь лавіна дзяржаўных СМІ.

Трэба аддаць належнае: знаёмствы з рэчаіснасьцю яго ў добрай ступені раззлавалі, але, што праўда, яшчэ не да канца. Пргысутнасьць у вялікай ступені ў яго характары выхаванасьці, такту, інтэлігентнасьці якасьцяў, якія ня надта ўхваляюцца электаратам Лукашэнкі, паступова пачынае афарбоўвацца новымі "колерамі" воляю, рашучасьцю, атакаваньнем, у добрым сэнсе жорсткасьцю.

**А ці пасуе яму гэтая жорсткасьць?**

Ведаеце, зьмяніць характар чалавека немагчыма. Гэта ад бацькі, ад маці. Ад Бога. А вось абставіны нададуць яго характару й паводзінам той эфэкт, які мы ад яго чакаем. У такой справе як палітыка патрабуецца, узгадаўшы Маякоўскага, "аратар, главар і шарпатан". А як бы мы не хацелі дэлікатнага й мяккуага палітыка, але жорсткасьць будзе разьвівацца ў Алесю ў той ступені, у якой ён будзе пранікацца рэчаіснасьцю, паглыбляцца ў праблемы грамадзтва й рабіць іх больш асабістымі. Болевы парог у яго мусіць паніжацца, і гэта ўжо заўважна. Іншым разам яго ўжо даводзіцца нават і стрымліваць.

**Вы шмат езьдзілі з сп. Аляксандрам па гарадах і мястэчках. Ці можаце Вы сказаць, у якіх варунках ён лепш пачуваецца!**

Калі ён бачыць застрашаныя вочы й утуленыя ў плечы галовы, калі людзі відавочна ім цікавяцца й пазнаюць яго, але баяцца падыйсьці - тут ён пачуваецца няўтульна. А вось калі падыходзяць людзі, пазбаўленыя страху, пытаюцца, крытыкуюць хай нават і рэзка, Алесь з задавальненьнем ідзе на размову з такім чалавекам як з роўным. Ён чакае размоваў, пытаньняў, парадаў ад людзей. З рабом жа заўсёды пачуваесься няўтульна. Таму можна вявіць пэўную ўзаемасувязь: на рынках вольных людзей болей. На прадпрыемствах, у ВНУ болей тых, хто баіцца.

**Чаго сп. Мілінкевічу яшчэ не хапае!**

Вялікай аўдыторыі, плошчаў людзей, так бы мовіць, Менскага кантакту, сталічнай энэргетыкі. А гэта толькі практыка. Палітык заўсёды нараджаецца , з штодзённага кантакту з людзьмі. У тэорыі ж ён засыхае. Таму ўлады й баяцца пускаць Алеся ў народ, да людзей. У невялікіх гарадах гэбэшнымі камэрамі людзей лягчэй запугаць, а ў стасунках са сталічным жыхаром гэта не спрацуе. Яго выхад да менчукоў мусіць адбыцца ў першыя ж дні агітацыйнай кампаніі. Яго трэба кідаць у народ. І ён (Мілінкевіч) да гэтага гатовы. Ён гэтага чакае.

# Перадусім – Беларусь

***Аляксей Янукевіч,***
*намесьнік старшыні Партыі БНФ*

Мінула ўжо чатыры месяцы з часу правядзеньня Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў, дзе Аляксандар Мілінкевіч быў абраны Адзіным прэтэндэнтам. За гэты час, хоць, вядома, ня ўсе магчымасьці былі выкарыстаныя дзеля эфэктыўнага даясеньня інфармацыі пра адзінага прэтэндэнта да людзей, зроблена, усё ж, нямала. Насамрэч, вялікая праца праробленая тысячамі дэмакратычных актывістаў, у вялікай ступені - сябрамі Фронту. Рэйтынг Адзінага ўжо цяпер складае 25% у закрытым апытаньні. Сабраныя 262 тысячы подпісаў за вылучэньне Аляксандра Мілінкевіча кандыдатам у прэзыдэнты.

Натуральна, і стабільны, дынамічны рост рэйтынгу, і сотні тысячаў сабраных подпісаў, і 79% вядомасьці прозьвішча Адзінага прэтэндэнта ў беларускім грамадзтве вынікі перадусім самаадданай штодзённай працы шэраговых партыйцаў і сябраў грамадзкіх арганізацыяў. Але вялікае значэньне мела й дзейнасьць самога Аляксандра Мілінкевіча. І ён скарыстаў гэтыя месяцы з максымальным эфэктам, робячы найбольш цяжкую, але адначасова й найбольш патрэбную справу. Адзіны прэтэндэнт сустракаўся зь людзьмі ў гарадох і мястэчках па ўсёй Беларусі. Вядома, былі й замежныя паездкі з сустрэчамі на самым высокім узроўні. Але перадусім -- Беларусь.

Зь лістападу 2005 па студзень 2006 Аляксандар Мілінкевіч сустракаўся й размаўляў з прадпрымальнікамі, працоўнымі, студэнтамі, настаўнікамі, пэнсыянэрамі, сьвятарамі й вернікамі хрысьціянскіх канфэсыяў, а таксама з дэмакратычным актывам у Баранавічах, Салігорску, Полацку, Наваполацку, Бабруйску, Івянцы, вёсцы Камень, Гомелі, Рэчыцы, вёсцы Азершчына, Васілевічах, Сьветлагорску, Жлобіне, Берасьці, Кобрыні, Белаазёрску, Бярозе, Івацэвічах, Коханаве, Воршы, Віцебску, Глыбокім, Слоніме, Ваўкавыску, Жодзіне, Барысаве, Смургонях, Ашмянах, Гародні.

На першы погляд можна было б зрабіць выснову аб тым, што ўлады вырашылі візіты Мілінкевіча не заўважаць: не было гучных затрыманьняў, разгонаў, арыштаў. Але, насамрэч, увага была вельмі пільная. Больш за тое, была грунтоўная папярэдняя падрыхтоўка. На прадпрыемствах, прахадныя якіх плянаваў наведаць Адзіны, за 2-3 дні да нашага прыезду адміністрацыя пачынала праводзіць "тлумачальныя размовы" з працоўнымі й інжынэрна-тэхнічнымі работнікамі:"Прыедзе апазыцыя да нашай прахадной, будуць агітаваць, ганьбіць наш урад. Падыходзіць нельга! Ні ў якім разе! Будзе весьціся запіс на відэакамэры, кожны ўдзельнік размовы будзе зафіксаваны й пазьней апазнаны. Усе, каго апазнаюць будуць звольненыя!" І сапраўды, падчас кожнай вулічнай сустрэчы невядомыя асобы ў цывільным, што неадступна суправаджалі картэж Аляксандра Мілінкевіча ды фіксавалі на відэа ўсе ягоныя перасоўваньні, не хаваючыся, вылазілі са сваіх аўто й амаль ва ўпор здымалі ўсіх удзельнікаў размовы. Зразумела, што пасьля папярэджваньняў шмат хто зь цікаўных, пабачыўшы відэакамэру спэцслужбаў, адыходзілі на 50-70 мэтраў ды толькі здалёк выпіналі шыі, спрабуючы пачуць Адзінага прэтэндэнта. Такога ж самага кшталту размовы праводзіліся ва ўнівэрсытэтах, школках, нават у дзіцячых дамах, якія плянаваў наведаць Аляксандар Мілінкевіч. Даходзіла да камічнага: у Берасьці супрацоўнікі міліцыі, у чарговы раз (спасылаючыся на апэрацыю "нелегал") агледзеўшы аўтамабіль, у якім перасоўваўся па горадзе Мілінкевіч, прычапіліся да відэакасэтаў з мультфільмамі. А ці няма на тых касэтах чагосьці забароненага? Інцыдэнт скончыўся масавым праглядам мультфільмаў у аддзяленьні міліцыі. А часам прыём быў далёкім ад жартаў. У Жлобіне, напрыклад, нам скасавалі бронь у гатэлі й адмовіліся засяляць ва ўсе іншыя (давялося скарыстацца з гасьціннасьці кіраўніка раённага штабу ды разьмясьціцца на прыватнай кватэры), а каля прахадной БМЗ нашыя машыны ўвогуле былі заблякаваныя дзьвума легкавікамі й фурай, у той час калі хлопцы спартовага выгляду ў цывільным спрабавалі справакаваць бойку.
Былі часам і натуральныя перашкоды. Так, у Смургонях нашым мясцовым актывістам на чале са спадарам Аляксандрам Дзергачовым давялося больш за гадзіну чакаць у пікеце ў 30-ці градусны (!) мароз прыезду Адзінага кандыдата: тэхніка не вытрымлівала й замярзала проста ў дарозе. А людзі вытрымалі й дачакаліся. Сустрэчы Мілінкевіча адбываліся пры любым надвор'і!

Я быў разам з Аляксандрам Мілінкевічам ва ўсіх паездках, і магу сьцьвярджаць: пазытыўных эмоцыяў і ўражаньняў засталося значна болей. У паездках вельмі добра адчуваецца праробленая па ўсёй краіне праца: калі напрыканцы лістападу ў Бабруйску Мілінкевіча ўпершыню за час кампаніі пазнаў выпадковы чалавек у кавярні, дык у студзені ўжо пазнавалі паўсюль і шмат хто. Калі ў сьнежні ў Белаазёрску мы ўпершыню пабачылі, як натоўп вакол Аляксандра Мілінкевіча павялічваецца, як сьнежны камяк, дык у тым жа студзені ў цэнтры Віцебску каля "сіняга дому" паслухаць ды проста пабачыць Мілінкевіча прыйшло больш за 100 чалавек, вакол якіх удвая ці ўтрая большая колькасьць выпадковых мінакоў утварыла сапраўдны корак на адным з самых шырокіх ходнікаў гораду. І пасьля сустрэчы больш за 10 хвілінаў заняла толькі раздача аўтографаў.

Наперадзе яшчэ большая колькасьць паездак. Натуральна, мы рыхтуемся ў першую чаргу да рэгістрацыі Аляксандра Мілінкевіча кандыдатам, і тады сустрэчы будуць адбывацца ў фармаце передвыбарчых мітынгаў. Як не - праца ня спыніцца, ня стане, будзем сустракацца зь людзьмі ў любых умовах. Бо менавіта з такіх сустрэчах, якімі б нязначнымі ў маштабах краіны яны не падаваліся, нараджаецца нацыянальная перамога.

Хачу выказаць шчырую падзяку ўсім кіраўнікам абласных ды раённых Фронтаўскіх структураў, што на месцах забясьпечылі выдатную арганізацыю візытаў Аляксандра Мілінкевіча, а таксама нашай партнэрскай арганізацыі "Правы альянс" за надзейную ахову Адзінага прэтэндэнта ды сябраў ягонай каманды.



# IX зьезд Партыі БНФ



## Новае кіраўніцтва ГА "БНФ Адраджэньне" і Партыі БНФ, абранае на зьезьдзе 17 сьнежня 2005 года.



**Старшыня**
Вінцук Вячорка




**Намесьнік старшыні**
Юры Хадыка



**Намесьнікі старшыні**
Аляксей Янукевіч



**Намесьнік старшыні**
Алесь Міхалевіч



**Намесьнік старшыні,**
Віктар Івашкевіч

## Сьпіс сябраў Сойму Партыі БНФ, абраных Х Зьездам Грамадзкага аб'яднаньня "БНФ Адраджэньне" і IX Зьездам Партыі БНФ:

1.Сяргей Антусевіч (Горадня);
2.Уладзімер Арлоў (Менск);
3.Вацлаў Арэшка (Менск);
4.Рыгор Барадулін (Менск);
5.Лявон Баршчэўскі (Менск);
6.Алесь Бяляцкі (Менск);
7.Вінцук Вячорка (Менск);
8.Валянцін Голубеў (Менск);
9.Юры Губарэвіч (Белаазёрск);
10. Станіслаў Гусак (Менск);
11. Аляксандр Дзергачоў (Смургоні);
12. Зьміцер Дрыгайла (Менск);
13. Аляксандр Жучкоў (Менск);
14. Юры Зянковіч (Ждановічы);
15. Віктар Івашкевіч (Менск);
16. Аляксей Кавалец (Менск);
17. Аляксандр Капуцкі (Маладэчна);
18. Віталь Каратыш (Кажан-Гарадок);
19. Рыгор Кастусёў (Шклоў);
20. Уладзімер Кішкурна (Менск);
21. Натальля Красоўская (Менск);
22. Уладзімер Лабковіч (Менск);
23. Аляксей Лапіцкі (Жодзіна);
24. Ігар Лялькоў (Менск);
25. Сяргей Мальчык (Горадня);
26. Аляксей Марачкін (Менск) -- толькі ГА "БНФ Адраджэньне";
27. Юры Меляшкевіч (Менск);
28. Дыяна Мікульская (Менск);
29. Алесь Міхалевіч (Менск);
30. Сяргей Міхноў (Менск);
31. Сяргей Мудрачэнка (Менск);
32. Віктар Мязяк (Баранавічы);
33. Анатоль Паплаўны (Гомель);
34. Валер Пуціцкі (Рэчыца);
35. Віктар Раманішка (Сьветлагорск);
36. Пётра Садоўскі (Менск);
37. Зьміцер Салаўёў (Магілеў);
38. Вадзім Саранчукоў (Горадня);
39. Андрэй Саротнік (Менск);
40. Канстанцін Смолікаў (Віцебск);
41. Алена (Лера) Сом (Полацак);
42. Алесь Стральцоў (Менск);
43. Станіслаў Суднік (Ліда);
44. Валянціна Сьвяцкая (Менск);
45. Галіна Сямдзянава (Менск);
46. Валянціна Трыгубовіч (Менск);
47. Юры Хадыка (Менск);
48. Ігар Ходзька (Бабруйск);
49. Юры Чавусаў (Менск);
50. Аляксандр Шутаў (Ворша);
51. Зьміцер Шыманскі (Берасьце);
52. Аляксей Янукевіч (Менск).



Навіны

БНФ





Разумеючы, што палітычная сытуацыя не палепшыцца, што датэрміновае абвяшчэньне выбараў ускладняе нашую задачу, Зьезд Партыі БНФ прыняў заяву, у якой падкрэсьліў цьвёрды намер партыі працаваць разам зь іншымі апазыцыйнымі структурамі на перамогу адзінага дэмакратычнага кандыдата.

**Контркандыдаты**
Вядома, што апроч Аляксандра Мілінкевіча патрэбную колькасьць подпісаў сабралі Сяргей Гайдукевіч, Аляксандр Казулін і Аляксандр Лукашэнка. Прычым апошні -- амаль два мільёны. Нагадаем, на мінулых выбарах яго група, прыблізна такая ж па колькасьці сабрала 395 000 подпісаў. Ці гэта азначае, што электарат сп. Лукашэнкі за пяць гадоў узрос у пяць разоў? Праектуем: 75 % афіцыйнай падтрымкі ў першым туры на выбарах 2001 г. памнажаем на 5 - атрымліваем "сур'ёзную" лічбу ў 375 % падтрымкі. Пры гэтым апошнія тры гады нават афіцыйныя сацыялягічныя інстытуты ня пішуць Лукашэнку больш за 60 % падтрымкі. Значыць справа не ў падтрымцы. І мы гэта ведаем: інтэрнаты й інстытуты, лякарні й пякарні, ПТВ і КДК, банкі й школы, аграпрадпрыемствы з колькасьцю працоўных у 4 чалавекі й буйныя заводы, дзе працуць дзясяткі тысячаў. Амаль па Сталіну: "Усе мы гайкі адзінай спайкі". Улада абнаглела да таго, што проста перапісвала ў падпісныя аркушы ўвесь асабісты склад з пашпарнымі дадзенымі й прапіскай. А потым прымушала падпісацца. На гэтае нахабства нарэшце трэба адпаведна адказваць.

Тымчасам Аляксандар Мілінкевіч аб'ехаў дзясяткі гарадоў і мястэчак Беларусі. У хуткім часе паезкі па рэгіёнах працягнуцца. А паміж імі Мілінкевіч робіць прэзыдэнцкую работу -- прадстаўляе дэмакратычныя сілы Беларусі перад кіраўнікамі эўрапейскіх краінаў. Гэта вялікая справа: лідэры ўплывовых дзяржаваў Эўропы прызналі ў Мілінкевічы кіраўніка новай Беларусі. А гэта значыць, што пасьля яго прыходу да ўлады Беларусь адразу здолее прыцягнуць тэхналёгіі ды інвэстыцыі тое, чаго нам зараз катастрафічна не хапае й без чаго наш ўяўны дабрабыт можа ляснуць ў адзіны момант.

З 16 да 19 лютага ЦВК правядзе рэгістрацыю кандыдатаў у прэзыдэнты. Пасьля рэгістрацыі агітуйма за нашага кандыдата! Яшчэ 5 гадоў Лукашэнкі канчаткова пахаваюць імпэт, веды й мары цэлага пакаленьня беларусаў. Гэтага нельга дапусьціць!

# Мілінкевіч і ўсе астатнія







Пачаўся 2006 год -- год чарговых прэзыдэнцкіх выбараў, якія за часы праўленьня А.Лукашэнкі згубілі права так называцца. Але гэта адзіная палітычная кампанія, калі дэмакратычныя сілы маюць магчымасьць зьвярнуцца непасрэдна да народу. Таму зь ініцыятывы Партыі БНФ з 2003 г. распачаўся працэс вылучэньня адзінага кандыдата дэмакратычных сілаў. Пасьля правядзеньня больш чым 100 раённых сходаў, летась 2 кастрычніка, адзіны кандыдат быў абраны. Ім стаў Аляксандр Мілінкевіч, вылучаны партыямі "Зялёных" і БНФ. Уся кампанія абудзіла нашы структуры, парадзіла ў сэрцах актывістаў і мільёнаў прыхільнікаў пераменаў надзею на лепшае для беларускага народу.

Сябрамі ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэньне кандыдатам у прэзыдэнты Алеся Мілінкевіча, сабрана 256 тысячаў 652 подпісы, што больш, чым ў два з паловай разы перавышае неабходны мінімум у 100 тысячаў, патрэбныя для рэгістрацыі, нягледзячы на ўсе перашкоды й рэпрэсіі.

Адчуўшы небясьпеку, ўлада узмацніла рэпрэсіі. Сьпіс рэпрэсаваных па палітычных матывах пайшоў на тысячы. А пасьля прынятага закону аб крымінальнай адказнасьці за "дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь" ён можа перайсьці і за 10 тыс., бо нічым не адрозьніваецца ад славутага сталінскага закону аб адказнасьці за "антысавецкую агітацыю".

Масава закрываюцца рэгіянальныя недзяржаўныя газэты. Перасьледуюцца цэнтральныя незалежныя выданьні. Пазбаўлены магчымасьці распаўсюду праз "Белпошту" і саюздрукі "Народная Воля", "БДГ", "Наша ніва", "Салідарнасьць", 15 рэгіянальных газэтаў. Зачыненыя ЭГУ, Беларускі гуманітарны ліцэй і Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў. Спыненае разьвіцьцё незалежнага прафсаюзнага руху, зачыненыя амаль усе маладзёвыя і жаночыя арганізацыі, непадкантрольныя рэжыму. Разгромлены Саюз палякаў, а Саюзу пісьменьнікаў утвораны паралельны праўрадавы саюз. Пазбаўляюць рэгістрацыі і палітычныя партыі. Ужо атрымала два папярэджаньні й Партыя БНФ.

Людзей звальняюць з працы, арганізуюць правакацыі са стралянінай, як у выпадку А.Лапіцкага, ці сумнеўныя судовыя працэсы супраць блізкіх родзічаў, як гэта здарылася з У.Кішкурнам. Такім стаў адказ рэжыму А.Лукашэнкі на заклік ЭЗ і АБСЭ спыніць палітычныя рэпрэсіі, адкрыць доступ апазыцыі да дзяржаўных радыё і тэлебачаньня, прывезьці ў адпаведнасьць з дэмакратычнымі нормамі выбарчае заканадаўства.

**Рэдакцыйная рада**




# Аляксандр Мілінкевіч. Мае думкі.

### Пра міжнародныя дачыненьні, Расею й НАТО

У Беларусі няма палітычных сілаў, якія б хацелі самі ліквідаваць сваю краіну. Мы, згодна з Канстытуцыяй, нэўтральная краіна. Таму мы не плянуем уступаць у НАТО, як і ў іншыя вайсковыя саюзы. Нашы стратэгічныя партнэры, у першую чаргу, нашыя суседзі. Зь імі трэба сябраваць, гандляваць, абменьвацца досьведам. Што ж да ўступленьня ў Эўразьвяз, дык наш шлях туды няблізкі, хоць на далёкую пэрспэктыву сяброўства ў ЭЗ павінна стаць нашай стратэгічнай мэтай. Але ніякіх адзіных дзяржаваў зь кім бы то ні было Беларусь ствараць ня будзе. Асобна скажу пра Расею. Гэта наш вялікі (і вечны) сусед. І інтэграваціца з Расеяй мы будзем. Галоўны ж чыньнік нашай інтэграцыі посьпехі ў эканоміцы. Эканоміка -- падмурак усяго. У нас з Расеяй падпісана безьліч дамоваў (дарэчы, не ўсе яны маюць адкрыты статус). У гэтых дамовах трэба разабрацца, высьветліць, якія з іх прыносяць эканамічную выгаду абедзьвум краінам і абедзьвум народам, а якія служаць прыкрыцьцём розных карупцыйных "схемаў". Але ў пажарным парадку ніякія дамовы, падпісаныя Беларусьсю, адмененыя ня будуць.

### Пра прадпрымальнікаў

Яны заклапочаныя шэрагам праблемаў. Увесь час мяняецца й ускладняецца заканадаўства ў сфэры малога бізнэсу. Прадпрымальнікі рызыкуюць сплатамі вялікіх штрафаў, пазбаўленьня ліцэнзіяў, а гэта значыць працы й сродкаў да існаваньня. А гэта -- стан стрэсу, што пазбаўляе маральных і фізічных сілаў.

Малы бізнэс -- падмурак эканомікі краіны. Прадпрымальнікі -- гэта кляса, якая самастойна здольная выцягнуць краіну з эканамічнай ямы. Але ў сфэры прыватнага бізнэсу ў Беларусі зараз дзейнічае сыстэма дазволаў. Спэцыялісты Міжнародный фінансавай карпарацыі ў гэтым годзе высьветлілі, што дазволы ахопліваюць 90 % дробнага й сярэдняга бізнэса ў Беларусі. У сярэднім для пачатка дзейнасці прадпрымальнік павінны патраціць каля 1,5 тысячы даляраў і два з паловай месяцы. А права выдачы гэтых дазволаў маюць больш за 50 дзяржаўных органаў, якія кіруюцца больш чым 200 нарматыўна-прававымі актамі. Зразумела, такая сітуацыя ненармальная, бо максымальна ўскладняе працу прадпрымальнікаў. І гэтую сыстэму неабходна спрошчваць: прыняць дакумент, што скасаваў бы адсылачныя нормы, устанавіў дакладны шэраг парабаваньняў для атрыманьня ліцэнзіі. Гэта аўтаматычна ўдарыць па схемах атрыманьня хабару чыноўнікамі. Да таго ж зараз чынавенства баіцца праявіць ініцыятыву, і свядома тармозяць разьвіцьцё бізнэса. Трэба тэрмінова прымаць закон, які б адрэгуляваў агульныя ўмовы работы сыстэмы дазволаў. У пэрспэктыве ж сыстэму дазволаў трэба замяніць сыстэмай заяваў: хочаш адкрыць бізнэс паставіў у вядомасьць мясцовыя ўлады і працуй. Так што максымальнае спрашчэньне заканадаўства што да рэгістрацыі, сплаты падаткаў, вітаньне ініцыятывы вось нашыя асноўныя крокі ў дачыненьні да прадпрымальнікаў.

### Пра валюту

Ані адзіная валюта, ані тым больш расейскі рубль нашай эканоміцы не дапаможа. Гэта толькі прывяжа нас да нестабільнай эканомікі Расеі, якая цалкам залежыць ад сусьветных цэнаў на энерганосьбіты. Сёньня яны высокія. А заўтра раптам абрынуцца, і што? Трэба ўмацоўваць сваю валюту. Яна ёсьць адным з галоўных складнікаў фінансавай і эканамічнай незалежнасьці краіны.

### Пра ідэалёгію

Ніхто ня можа быць змушаны ўступаць у якую б то ні было асацыяцыю. Людзі мусяць мець права на свабоду слова, на свабоднае атрыманьне й распаўсюд інфармацыі. Ніякая ідэалёгія не можа усталёўвацца ў якасьці адзінай абавязковай. Недапушчальныя загады, дэкрэты і указы, якія абмяжоўваюць канстытуцыйныя правы грамадзянаў.

### Пра інфармацыю

Чым менш інфармацыі тым больш страху ў грамадстве, і наадварот. Паінфармуем людзей, сустрэнемся з імі, адкажам на іх пытаньні, натхнім іх абавязкова пераможам. Улада страшэнна баіцца нас. Яна ж пра нас насамрэч нічога не ведае. Бо ўласнаручна згубіла каналы інфармацыі пра падзеі, што адбываюцца ў дэмакратычным грамадзтве.






Сяргей ШЫНКЕВІЧ

# Тэхналёгія супраць цэнзуры

У апошні час шмат вядзецца пра стварэньне вакол вакол Беларусі сеткі FM-радыёстанцыяў, што вяшчалі б з тэрыторыяў Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі й ахапілі б сваім сыгналам недзе траціну тэрыторыі краіны. На тэрыторыі Беларусі адчыніць незалежную рыдёстанцыю ці тэлеканал немагчыма, бо ўсімі частотамі валодае дзяржава. Чаму ж нельга "пакрыць" інфармацыяй з-за мяжы усю тэрыторыю нашай краіны? Патлумачым.

### Прымачы

Радыёпрымачы прымаюць электрамагнітныя (ЭМ) хвалі, якія выпраменьваюць перадаючыя станцыі. У гэтых электрамагнітных хвалях зашыфравана інфармацыя, якую ствараюць радыёстудыі (радыёстанцыі). Частоты ЭМ хваляў (нясучыя хвалі) падзяляюцца на дыяпазоны: доўгія хвалі (ДХ), сярэднія хвалі (СХ), кароткія хвалі (КХ), ультракароткія хвалі (УКХ), і гэтак званы FM-дыяпазон (ультра-ультракароткія хвалі). Калі вы хочаце ўявіць сабе ЭМ хвалі, то ўявіце хвалі на моры, а даўжыня хвалі гэта адлегласць паміж вяршынямі суседніх хваляў, толькі ЭМ хвалі нябачныя для людзей (акрамя надзвычайна кароткіх хваляў сьвету, якія успрымае вока чалавека).

Даўжыня ДХ каля 1000 м, СХ каля 300 м, кароткія хвалі: 49 м, 41 м, 31 м, 25 м, 19 м, УКХ каля 6 м, FM каля 3 м. Гэтыя хвалі вызначаны для шырокага масавага вяшчання. Інфармацыя, якую нясуць ЭМ хвалі шыфруюцца трыма спосабамі: амплітудная мадуляцыя (АМ), частотная мадуляцыя (ЧМ), фазавая мадуляцыя. УКХ і FM шыфруюцца спосабам ЧМ, іншыя спосабам АМ.

Доўгія й сярэднія хвалі распаўсюджваюцца на адлегласьць да тысячы кілямэтраў, УКХ і FM -- да 100 км, а кароткія хвалі -- да 15 тысяч км, дзякуючы асаблівасці КХ адбівацца ад ёнасферы Зямлі.

Напрыклад, Радыё "Свабода" працуе на КХ і СХ, але на СХ не вельмі добра чуваць. Для праслухоўвання замежных радыёстанцый патрэбны прымачы, сканструяваныя для прыёма КХ. Многія сучасныя прымачы маюць лічбавыя індыкатары частаты хвалі настройкі. Частата хвалі суадносіцца да даўжыні хвалі так:
*Частата (Гц) = Хуткасць сьвету (300.000.000 м/с) падзеленая на Даўжыню (м).*
Пры выбары прымача трэба звярнуць увагу на яго адчувальнасць (здольнасць узмацняць слабы ЭМ сігнал антэны) і яго сэлектыўнасць (здольнасць прымаць частату настройкі і адсякаць суседнія частоты і шумы). Якасць прыёму правяраецца перад тым як заплаціць грошы за прымач, шляхам прыёму аддаленай станцыі, напрыклад радыё "Свабода".

У канцы 90-х гадоў створана і выкарыстоўваецца (але не ў нас) тэхналёгія прыёму аўдыёінфармацыі са спадарожнікаў на невялікія спэцыяльныя прымачы ў дыяпазоне 2300 МГц.

### Спадарожнікавае тэлебачаньне

На тэрыторыі Беларусі прымаюцца каля 4000 тэлеканалаў на дзесятках моваў, але беларускай мовы там няма. Спадарожнікі, празь якія вядуцца тэлеперадачы, знаходзяцца на адлегласці 35000 км ад паверхні Зямлі (Зямля мае дыяметр каля 13000 км) на гэтак званай гэастацыянарнай арбіце, якая ляжыць у плоскасьці экватара. Гэтыя спадарожнікі "нерухома" вісяць над пэўнымі кропкамі экватара.

Пералічу некаторыя зь іх: Sirius 5 E, Eutelsat W3 - 7 E, Eutelsat W1 - 10 E, HotBird 1, 2, 3, 4, 6 13 E, Eutelsat - 16 E, Astra 19 E, Astra 28 E, Eurobird 28 E. "5 E" азначае 5 градусаў усходняй даўжыні. Менск знаходзіцца на даўжыні 27 E, таму антэну (талерку) трэба накіроўваць на поўдзень/паўднёвы захад. Антэны выраблены па форме "парабалоіда кручэньня" дыямэтрам каля 1 м і забясьпечваюць добры прыём. Адзінымі перашкодамі прыёму могуць быць толькі моцны дождж ці сьнег.

Даўжыня нясучай хвалі каля 3 см (10 000 000 000 Гц, альбо 10 ГГц), чым карацейшая хваля (вышэйшая частата), тым больш інфармацыі можа яна перанесці (больш інфармацыі ў ёй можна зашыфраваць). Таму адна нясучая частата можа несьці некалькі тэлеканалаў. Відэа і аўдыёінфармацыя прадстаўлена ў фармаце MPEG-2. Гэта лічбавы фармат, які прынцыпова адрозьніваецца ад аналягавых фарматаў PAL, SECAM, NTSC якія "разумеюць" звычайныя тэлевізары. Наогул сыстэмы з лічбавым фарматам называюцца DVB (Digital Video Broadcasting, Лічбавае Відэа Вяшчаньне), а са спадарожніка называецца DVB-S (літара S- скарачэнне слова Satellite - спадарожнік). Фармат MPEG-2 выкарыстоўваецца таксама ў фільмах на DVD дысках, што стварае больш высокую якасць кадра і дазваляе шматканальны гук (стэрэа гук, шасьціканальны гук), альбо перадаваць суправаджаючы відэакадры гук на некалькі мовах.

Прымаць сыгнал з талеркі можна на тэлевізар ці кампутар

**Прыкладныя кошты:**
Антэна з канвэртарам: *45 у.а. і вышэй;*
DVB-S прымач: *100 у.а. і вышэй;*
DVB-S картка (SkyStar 2): *80 у.а.;*
Мантаж і наладка: *каля 30 у.а.;*
Тэлевізар: *100 у.а. і вышэй;*
Кампутар: *450 у.а. і вышэй.*

Пры падключэньні праз кампутар можна таксама карыстацца Інтэрнэтам праз спадарожнік. Пры гэтым запыты на інфармацыю перадаюцца праз звычайны мадэм (хуткасьць — да 56 Kbit/s), а прыём вядзецца са спадарожніка (хуткасць — ад 64 Kbit/s да 5000 Kbit/s). Мінімальны кошт аплаты Інтэрнэт-правайдэра 3 у.а. за 1 гігабайт (1 000 000 000 байт) прынятай інфармацыі.

Інфармацыя ў 1 байт, які складаецца з 8 bit, прыкладна адпавядае адной літары.




# Моладзь БНФ





А. Мілінкевіч сустракаецца з моладзьдзю Барысава



## АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: «Мы кінулі выклік сёньняшняй уладзе»

*Аляксандр Мілінкевіч, прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта Беларусі ад дэмакратычных сілаў, не пагаджаецца з афіцыйным папярэджаньнем ЦВК у адносінах да яго ініцыятыўнай групы. Ён лічыць гэтае папярэджаньне надуманным і будзе яго абскарджваць.*

18 студзеня Цэнтральная камісія па выбарах і правядзеньню рэспубліканскіх рэферэндумаў вынесла афіцыйнае папярэджаньне ініцыятыўнай групе Аляксандра Мілінкевіча. Падставай для гэтага рашэньня паводле ЦВК стаў распаўсюд сябрамі ініцыятыўнай групы друкаванай прадукцыі падчас збору подпісаў.

*"Папярэджаньне надуманае, мы зь ім не пагаджаемся й будзем яго абскарджваць. Мы добра разумеем, што гэта псыхалягічны ціск, спроба зьбіць той выдатны тэмп, якім мы набралі, зьменьшыць нашую актыўнасьць, пасеяць зерне няўпэненасьці ў шэрагах нашых прыхільнікаў.*

*Мы кінулі выклік сёньняшняй уладзе – не дапусцім далейшага прыніжэньня беларускага народу! І гэты выклік улада прыняць баіцца, бо адчувае, што праўда й справядлівасьць сёньня на нашым баку, на баку аб'яднаных дэмакратычных сілаў.*

*Я зьвяртаюся да кожнага грамадзяніна, каму неабыякава будучыня нашай Беларусі й хто выступае за здаровыя перамены ў нашай краіне. Нягледзячы на ціск улады, я асабіста й аб'яднаныя дэмакратычныя сілы працягваем нашую працу: паездкі ў рэгіёны, размовы зь людзьмі. Нашая мэта простая й канкрэтная – вернуць у Беларусь свабоду, праўду й справядлівасьць".*

## Хто будзе назіраць за беларускімі выбарамі?

Беларускія ўлады накіравалі запрашэньні першым міжнародным назіральнікам на прэзыдэнцкія выбары. Аднак місія АБСЭ пакуль такога запрашэньня не атрымала.

Старшыня Цэнтравыбаркаму Лідзія Ярмошына заявіла, што ЦВК накіравала запрашэньні арганізатарам выбараў усіх краінаў СНД, акрамя Грузіі, а таксама запрасіла калегаў зь Літвы і Латвіі. Тое, што не запрасілі Грузію, сакратар ЦВК тлумачыць "адсутнасьцю кантактаў".

Юрыст Валянцін Стэфановіч удзельнічаў у назіраньні за выбарамі ў шэрагу краінаў СНД. Як ён ставіцца да прафэсіянальнага ўзроўню назіральнікаў СНД?

(Стэфановіч: ) "Я расцэньваю місію СНД, якую ўзначальвае Рушайла, як абсалютна палітычна матываваную, якая прымае рашэньні, несыходзячы з міжнародных стандартаў у галіне выбараў, -- стандартаў АБСЭ. Яны не заўважаюць відавочных фактаў парушэньня й прызнаюць любыя выбары на постсавецкай прасторы дэмакратычнымі".

## Штошаснаццатага: Дзень Салідарнасьці

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка выказаўся ў падтрымку Дня салідарнасьці.

"Першасны сэнс Дня салідарнасьці – выказаць пыдтрымку ўсім, хто пацярпеў ад гэтай улады, зьніклым, незаконна асуджаным, іх сем'ям. Вядома, гэта вельмі высокамаральная ініцыятыва," – сказаў палітык.

16 верасьня 1999 году ў Беларусі былі скрадзеныя віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Віктар Ганчар і яго сябра бізнэсовец Анатоль Красоўскі. У выніку міжнароднага расьследаваньня пад падазрэньне ў датычнасьці да зьнікненьняў патрапілі ўлады. Прадстаўнікі грамадскай супольнасьці прапанавалі праводзіць у краіне Дні салідарнасьці. Яны заклікалі ў 16-ты дзень кожнага месяца а 20:00 ПРОСТА ВЫКЛЮЧЫЦЬ СЬВЯТЛО й на 15 хвілінаў запаліць ў вокнах сьвечкі як знак салідарнасьці зь сем'ямі зьніклых палітыкаў, палітзняволенымі, незалежнымі журналістамі, усімі змагарамі за свабоду й дэмакратыю ў Беларусі.





# Што ёсьць кансэрватызм

**Кацярына Маркоўская,**
сябра Моладзі БНФ

Само слова "кансэрватызм" паходзіць ад лацінскага слова "conservare", што азначае захоўваць. Вынаходніцтва гэтага панятку прыпісваюць францускаму пісьменьніку й грамадзкаму дзеячу Ф. Шатабрыяну, які ўжыў яго для апісаньня рэакцыі арыстакратаў на падзеі, зьвязаныя зь Вялікай Францускай рэвалюцыяй (1789 г.). Аднак сам па сабе кансэрватызм узьнік задоўга да XVIII ст. Як і лібэралізм, кансэрватызм -- гэта асаблівы вобраз мысьленьня й асаблівае стаўленьне да рэчаіснасьці. На думку аднаго з брытанскіх гісторыкаў, першым кансэрватарам можна лічыць Адама, які не жадаў парушаць усталяваныя Богам законы. Ева ж выступае як аблічча лібэралізму, навацыяў і экспэрымэнту.

У нашай паўсядзёнай гаворцы кансэрватарам мы звычайна называем чалавека, які прытрымліваецца традыцыяў, не жадае рэзка мяняць навакольны сьвет, жыве па прынцыпе "цішэй едзеш -- далей будзеш", "усё новае -- гэта добра забытае старое". Аднак кансэрватызм гэта яшчэ й стройная сыстэма палітычных, эканамічных і філязофскіх поглядаў. Якія ж яны? Да ліку базавых ідэяў кансэрватызму можна аднесьці наступныя:

1.Грамадзтва -- гэта арганічная й цэласная сыстэма, дзе кожны чалавек займае асаблівае, толькі яму ўласьцівае месца й адначасова залежыць ад усіх астатніх. У нейкім сэньсе грамадзтва можа быць параўнанае з чалавечым арганізмам, які жыцьцяздольны толькі тады, калі ў ім ёсьць усе неабходныя элемэнты, якія аб'яднаныя ў адзінае цэлае. Калі ідэалёгія лібэралізму робіць акцэнт на панятку "Я" (я -- самастойны, аўтаномны, рацыянальны, непаўторны індывід), то кансэрватызм на першы плян ставіць панятак "МЫ" (мы -- адзінае цэласнае грамадзтва й безь яго існаваньне асобнага чалавека немагчымае).

2. Чалавек па самой сваёй прыродзе -- істота грахоўная. Як сьцьвярджаў адзін зь ідэолягаў кансэрватызму брытанскі філёзаф Э. Бэрк, над чалавекам перавагае паняцьце першароднага граху. Таму ён ведае, што для яго лепш, а што -- горш. Такім чынам, ён не павінен імкнуцца да перабудовы грамадзтва па сваіх загадзя прыдуманых плянах, якія б спакусьлівыя й прывабныя яны ні былі.
3. Палітычныя й эканамічныя прынцыпы грамадзтва трэба не выдумляць "з галавы", а знаходзіць у самой практыцы. Іх трэба прыстасоўваць да рэчаіснасьці. Любая тэарэтычная схема горш, чым сацыяльны досьвед і традыцыя. Як пісаў кансэрватар М. Оукшот, быць кансэрватарам -- значыць "аддаваць перавагу праверанаму, а не неправеранаму; факту, а не таямніцы; існуючаму, а не магчымаму; блізкаму, а не далёкаму; зручнаму, а не дасканаламу."
4. Грамадзкае жыцьцё павінна абапірацца на вечныя й непахісныя каштоўнасьці: сям'ю, традыцыю, рэлігію, маёмасьць. Яны й зьяўляюцца тымі "кітамі", на якія абапіраецца стабільнасьць і дабрабат грамадзтва. Гэтыя каштоўнасьці дадзеныя нам Богам, і мы ня маем права абыходзіцца зь імі так, як нам захочацца.
5.Людзі ад нараджэньня ня роўныя й не павінны быць такімі. Стваральнік надзяліў іх рознымі здольнасьцямі й магчымасьцямі. Менавіта такі натуральны парадак рэчаў. Імкненьне да фармальнай роўнасьці й "прыдумваньне" ўсялякіх свабодаў могуць прывесьці да ўсеагульнай анархіі й распаду адзінага сацыяльнага арганізму.
6.Грамадзтву патрэбна не дэмакратыя, а моцная й мудрая ўлада. Дэмакратыя ж прыводзіць да перавагі пасрэднага й тыраніі большасьці. У палітыцы галоўнае -- гэта знайсьці мудрых кіраўнікоў, якія могуць вызначыць, што такое грамадзкая карысьць і як яе дасягнуць.
Такім чынам, клясычны кансэрватызм выступіў прамым апанэнтам лібэралізму крытыкуючы яго за ідэі індывідуалізму й утапітарыўму

Усё гэта, вядома, ня значыць, што кансэрватызм можна атаясамліваць з рэакцыйнасьцю, ці абскурантызмам. Больш за тое, заўважым, што ідэалёгія кансэрватызму знаходзіць водгук у самой чалавечай прыродзе, якой уласьціва імкненьне да захоўваньня й засьцярога ва ўспрыманьні новага. Пагодзімся, што ў некаторых выпадках менавіта гэтыя рысы чалавечай натуры ратавалі чалавецтва ад многіх бедаў і разбурэньняў. Руйнаваньне старога сьвету й пабудова на яго руінах новага справа часта ня толькі дарэмная, але й небясьпечная, і можа прывесьці да трагічных вынікаў.

У другой палове XX стагодзьдзя сацыяльна-палітычныя й эканамічныя зьмены ў сьвеце прымусілі кансэрватараў пераглядзець некаторыя клясычныя палажэньні. Так зьявіўся нэакансэрватызм, які ўспрыняў цэлы шэраг новых ідэяў, у тым ліку й лібэральных. Па-першае, нэакансэрватары не адмаўляюць ідэю дэмакратыі. Пры гэтым яны падкрэсьліваюць, што дэмакратычнае грамадзтва павінна спалучацца з уладаю эліты. Народ мае права голасу, але ён абавязаны лічыцца з тым, што вярхоўная ўлада павінна знаходзіцца ў руках найбольш вартых і мудрых.

Па-другое, у галіне эканомікі яны выступаюць за абмежаваньне ўмяшальніцтва дзяржавы ў рынкавую эканоміку, за стварэньне спрыяльных умоваў для разьвіцьця прыватнага прадпрымальніцтва, напрыклад, шляхам зьніжэньня падаткаў, прадстаўленьня ільготаў прыватнаму капіталу. Эканамічная формула нэакансэрватараў магла б выглядаць так: індывідуальнае прадпрымальніцтва + групавая каапэрацыя + урадавае рэгуляваньне. Пры гэтым, прыватнае прадпрымальніцтва ставіцца імі на першае месца, урадаваму рэгуляваньню адводзіцца трэцяя пазыцыя.

Па-трэцяе, у галіне сацыяльнай палітыкі нэакансэрватары прапануюць прытрымлівацца трох асноўных прынцыпаў: прынцыпа салідарнасьці працаўнікоў і наймальнікаў, прынцыпа субсыдыярнасьці, г. зн. садзеяньня самадапамозе й прыватнай ініцыятыве й прынцыпу справядлівасьці, які прапаноўвае справядлівую заработную плату, справядлівыя падаткі й г. д. Іншымі словамі, яны падтрымліваюць ня толькі прамую сацыяльную дапамогу з боку дзяржавы, колькі стварэньне ўмоваў, пры якіх чалавек мог бы сам дапамагаць сабе.
*(Працяг на староны 12)*

*Зьміцер Салаўёў*



# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ – БЫЦЬ АДКАЗНЫМ ЗА СЯБЕ Й СВАЮ КРАІНУ




*Аднойчы ў сьнежні 2005 году я ехаў на таксоўцы й неяк зайшла гаворка з кіроўцам пра абвяшчэньне прэзыдэнцкіх выбараў на сакавік:*
*- Глянь як "ён" зрабіў, нябось у штаны наклаў ад страху, як думаеце? - Ён павярнуўся да мяне й па-сяброўску падмігрнуў мне. - Настаюць яго апошнія дні!*

Сёньня ў Беларусі нікому ня трэба тлумачыць, хто такі "ён" і "мы". "Ён" засеў у сваёй цытадэлі -- будынку прэзыдэнцкай адміністрацыі. "Ён" перакрывае рух, каб "яго" картэж з чорных "Мэрсэдэсаў" без перашкодаў ляцеў па гарадзкіх вуліцах, а на "нас" проста плюе, дакладней, ставіцца як да таннай працоўнай сілы, дзякуючы якой "ён" можа красьці й жыць па-царску.

"Ён" кантралюе міліцыю, якая зьбівае дэманстрантаў, агульнанацыянальныя тэлеканалы, якія паліваюць "нас" тонамі ілжы, і падатковую службу, што выціскае з "нас" грошы для "ягоных" патрэбаў, пакуль не абдзяруць "нас" да ніткі. Адным словам, "ён" гэта прэзыдэнт Лукашэнка, самы ненавісны кіраўнік краіны за ўсе часы існаваньня Беларусі, а "мы" гэта народ, грамадзяне Беларусі. У той жа час свавольства ўладаў ёсьць усяго толькі адваротным бокам грамадзкай пасыўнасьці. Таму дзеля зьмяненьня сытуацыі неабходная актывізацыя як асобных людзей, так і грамадзкіх структураў, каб яны адчулі, што маюць магчымасьць уплываць на сытуацыю ў краіне. Найзручнейшым для гэтага зьяўляецца час напярэдадні выбараў, паколькі ў гэты момант у той ці іншай ступені большасьць насельніцтва задаецца пытаньнем: "Што будзе далей?" Выбары -- гэта момант непасрэднага праяўленьня народнай улады -- час, калі кожны грамадзянін мусіць даць ацэнку эфэктыўнасьці асобы, якую 12 гадоў таму выбарцы нанялі на працу й якой своечасова выплочвалі высокі заробак, што гарантаваў ёй высокі ўзровень жыцьця.

Мы павінны прадухіліць сытуацыю, падчас якой такая ацэнка выстаўляецца ў атмасфэры страху, фальсыфікацыяў і прымусу. Мы мусім ня толькі абраць Аляксандра Мілінкевіча, чалавека, які падзяляе нашыя каштоўнасьці, чалавека якога вылучыў народ Беларусі, але й адстаяць свой выбар.

Я перакананы, што беларускі народ заслугоўвае лепшай долі, больш людзкага стаўленьня да яго з боку ўлады й, прынамсі, абароны яго канстытуцыйных правоў. Мы хочам, каб наша дзяржава нарэшце стала эўрапэйскай ня толькі геаграфічна й культурна, чаго ўжо недастаткова, але таксама палітычна й эканамічна. Толькі тады людзі будуць адчуваць сябе сапраўднымі грамадзянамі Беларусі.

Але ўсе павінны памятаць, што быць грамадзянінам Беларусі гэта ганаровае права. Нельга мець права, ня будучы адказным за сябе, за сваю краіну. Быць грамадзянінам азначае адказнасьць.

У старажытнай Грэцыі грамадзянінам полісу мог быць толькі свабодны чалавек, які абараняў сваю дзяржаву. Грамадзянінам мог быць толькі той, хто быў гатовы аддаць за сваю краіну жыцьцё.

Гэта актуальна для нас. Толькі той заслугоўвае свабоду, хто змагаўся за яе. Толькі патрыёт можа лічыцца грамадзянінам Беларусі.
Беларуская дэмакратыя магчыма толькі як дэмакратыя элітарная. Гэта не дэмакратыя для эліты, а такі мэханізм кіраваньня, які дазваляе народу, грамадзянам абіраць лепшых.

Нельга дазволіць, каб у палітычную эліту маглі трапіць тыя, каму не дарагая Бацькаўшчына, для каго беларуская мова -- чужынская, каму чужыя нацыянальныя сымбалі, славутая гісторыя Радзімы.
Мы, Моладзь БНФ, самая прагрэсіўная частка Беларускага Народнага Фронту, і ёсьць будучая эліта Беларускай дзяржаўнасьці. Гэта нам давядзецца адраджаць мову, культуру, будаваць вольную незалежную Беларусь. Гэта мы мусім зьмяніць жыцьцё да лепшага. Мы мусім зрабіць яго чыстым і сьветлым, як марское паветра. Паветра пераменаў. Мы чакаем пераменаў! І мы зробім усё, каб гэткія перамены адбыліся найхутчэй у нашым жыцьці, ў жыцьці нашай Краіны.
Будзьма вольнымі сэрцам, і воля знойдзе нас абавязкова! Трымайцеся разам -- і мы пераможам. Перамога будзе за намі. У імя нашых продкаў, у імя нашых заўчасна сышоўшых з жыцьця у барацьбе сяброў, у імя нашых дзяцей і нашай будучыні пераменім гэтае жыцьцё да лепшага!

Мы -- тыя, хто мапады, хто прагне пераменаў ва ўласным жыцьці, хто здольны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Мы мусім і мы будзем жыць годна! Мы можам зьмяніць Беларусь. Мы будзем жыць у ВОЛЬНАЙ і ПА-ЭЎРАПЭЙСКУ ЗАМОЖНАЙ БЕЛАРУСІ.
Бо разам Мы -- СІЛА!
Разам Мы -- САМА ПЕРАМОГА!

Жыве Беларусь!



# Вясна пакажа, хто дзе..



**Ігар Казьмярчак,**
сябра Моладзі БНФ

Пакаленьні беларусаў змагаліся за незалежнасьць краіны й чалавечую годнасьць на гэтай зямлі. Пакутавалі й гінулі, цярпелі Сібір і ГУЛАГі. Былі закатаваныя ў падвалах і расстраляныя ў Курапатах. Але працягвалі змагацца. І пакінулі нам гэтую справу, ня здолеўшы яе скончыць. Нехта верыў у перамогу, нехта змагаўся, бо проста ня бачыў іншага выйсьця, ня мог больш трываць, або проста так, як падказвала ўласнае сумленьне. Ці верылі паўстанцы Касцюшкі ў перамогу? Ці спадзяваліся на посьпех касінеры Каліноўскага, калі йшлі змагацца зь вялікай імпэрыяй, ня маючы вялікіх сілаў? На што спадзяваліся Слуцкія героі, калі выйшлі адным палком супраць цэлага войску? Перш за ўсё, на тое, што іх справа будзе працягнутая!

Сёньня мы можам разважаць, будзе перамога гэтай вясною ці не. І сыходзячы з гэтага меркаваць, ці варта так ужо напінацца ці пачакаць наступных выбараў. Але ўзгадайце нашых продкаў. Яны разумелі, што перамогі не дасягнуць, і ўсё адно змагаліся за яе. Нашае пакаленьне ў больш выйгрышнай сытуацыі, бо перамога ўжо не за гарамі. Яна ўжо блізка, побач. Пах яе лунае ў паветры й калі-нікалі прарывасцца сьвежым струменем паветра ў тое балота, ў якое нас загналі. Лукашэнка сказаў: "Гэтыя выбары -- іспыт для ўладаў, які мы (яны) пастараемся здаць з годнасьцю." І што Лукашэнка пакажа на гэтым іспыце? 70 % прадпрыемстваў, якія не прыносяць даходу? Новыя пустыя дамы ў вёсках? Самалёт за 100 млн. даляраў? Прададзены "Белтрансгаз"? Ці стабільнасьць, якая як пальцам па вадзе пісаная? Яму няма чаго прад'явіць народу, і народ у яго за гэта спытае. І пытаньне гэтае будзе не такое, якое прафэсар задае студэнту. Пытаньне гэтае будзе пастаўлена рубам: або ты, Александар Рыгоравіч, або мы, Народ. І пасьля гэтага адзін з вышэйназваных мусіць сыйсьці.

Мы задаем пытаньні, ці зарэгіструюць нашага кандыдата, ці будзе хаця б намёк на сумленнасьць у выбарчай кампаніі й г.д. Але ці важныя гэтыя пытаньні? Узгадайма вясну 2005 году. 10 000 прадпрымальнікаў выйшлі на вуліцы Менску. Каля 100 000 па ўсёй краіне. 2 500 тысячы выйшлі на вуліцу на 25 сакавіка толькі пачуўшы, што будзе рэвалюцыя. Забастоўка на "Мотавелазаводзе" ды іншыя больш дробныя пратэсты звычайных грамадзянаў, якім надакучыла. А цяпер простая арытмэтыка: 10 000 + 2 500 = 12 500. Дадаем да гэтага хаця б 10 000 чалавек з рэгіёнаў (а там пратэст яшчэ больш, толькі раздроблены), яшчэ хаця б 5 000 актывістаў партыяў ды 1 000 людзей, якім яшчэ надакучыць. Атрымліваем 28 500. Калі пачынаўся Украінскі Майдан, на вуліцу выйшла 10 000 чалавек, і гэтага хапіла, каб потым выйшаў мільён. Вось і нам вышэйзначанай колькасьці людзей хопіць. Скептык можа пачаць казаць, што міліцыя будзе душыць любы бунт, дарогі да Менску перакрыюць, больш за гэтую колькасьць народу ня выйдзе, бо пабаяцца... Але калі мы сёньня маем 28 500 чалавек, якія гатовыя выйсьці на вуліцу, дык яны ўсё адно выйдуць і доўга чакаць ня будуць. Я згодны са скептыкамі: можа атрымацца ўсё што заўгодна, і ад пройгрышу мы не застрахаваныя. Але 19 сакавіка 2006 будзе бітва. І гэта будзе або "бітва пад Ватэрлоў" (поўны разгром) або "Барадзінская бітва" (якая пераломіць ход вялікага змаганьня). А для гэтага трэба сёньня сваёй працай "нагрэць сытуацыю": паказаць рэальную альтэрнатыву й даць людзям веру ў перамогу. Менавіта для гэтага трэба сёньня працаваць. Бо горш ад нашай працы не стане, а вось зрухі наперад будуць.



## Што такое кансэрватызм

*(Працяг разважаньня на тэму, што ёсьць кансэрватызм* *Пачатак на старонцы 10)*

Па-чацьвёртае, нэакансэрватары выступаюць рашучымі абаронцамі правоў чалавека. Аднак іх разуменьне гэтай праблемы адрозьніваецца ад лібэральнага. Калі б перад нэакансэрватарм стаяла пытаньне: што найважней права грамадзтва ці права індывіда, то ён хутчэй ўсяго выбраў бы права грамадзтва. Пры гэтым трэба разумець, што грамадзтва, на думку нэакансэрватараў, шырэй дзяржавы й ўраду. Гэтая гістарычна складзеная формула суіснаваньня людзей, якой яны й могуць рэалізаваць свае дадзеныя Богам правы.

Зазнаўшы істотныя зьмены, сучасная новакансэрватыўная ідэалёгія засталася па сваёй сутнасьці кансэрватыўнай. Галоўнай прычынай усіх адмоўных зьяваў сучаснага грамадзтва нэакансэрватары працягваюць бачыць у адыходзе ад такіх каштоўнасьцяў, як закон, парадак, дысцыпліна, стрыманасьць, згода, патрыятызм, сям'я.

Нельга не адзначыць, што перад сучасным кансэрватарамі стаіць сур'ёзная праблема. З аднаго боку, яны змагаюцца за свабодны рынак і прыватнае прадпрымальніцтва, а зь іншага падкрэсьліваюць сваю адданасьць традыцыйным каштоўнасьцям і ідэалам. Супярэчнасьць у дадзеным выпадку ў тым і заключаецца, што часьцей менавіта гэтыя ідэалы падрываюцца ва ўмовах свабоднай рынкавай эканомікі. Розныя плыні ў сучасным кансэрватызьме спрабуюць вырашыць гэтую праблему. Але ў любым выпадку кансэрватызм шукае адказы на зноў узьнятыя пытаньні й тым самым імкнецца адпавядаць агульнасусьветным тэндэнцыям і нацыянальным традыцыям, шанаваць мінулае й ісьці ў нагу з эпохай.

# Газавая крыжаванка

Юры Гембіцкі

Расея бліжэйшыя пяць год будзе прадаваць газ Украіне па 230 даляраў за 1000 кубамэтраў. А Ўкраіна набываць па 95. Вось такая сюрэалістычная арытмэтыка. Пры гэтым задаволеныя як кіраўнік "Газпрому" Аляксей Мільлер, так і кіраўнік "Нафтагазу Ўкраіны" Аляксей Івчанка. Задаволеныя нават у кампаніі "Росукрэнэрга", якая павінна будзе гэтую розьніцу кампэнсаваць. Як так магло здарыцца? У ноч на 4 студзеня газавы кантракт паміж «Газпромам» і «Нафтагазам Украіны» быў падпісаны. Пастаўнікам газу ва Ўкраіну цяпер ёсьць кампанія «Росукрэнэрга» (сумеснае прадпрыемства «Газпрому» і аўстрыйскага «Райфайзэнбанку»).

Нагадаем, у мінулым годзе Ўкраіна плаціла за "газпромаўскі" газ 50 даляраў, Беларусь 46 даляраў 68 цэнтаў. У гэтым годзе Беларусь будзе плаціць тыя ж грошы. Для Ўкраіны паставілі "спэцыяльную цану" 230 даляраў як помсту за тое, што Ўкраіна адмовілася аддаць газаправодную сыстэму ў сумеснае з «Газпромам» прадпрыемства. А тут як раз ва Ўкраіне неўзабаве парлямэнцкія выбары. Яны сталіся тэстам для прэзыдэнта Віктара Юшчанкі.

Спачатку яго шантажавалі тым, што краіну замарозяць. Потым прапанавалі ўзяць крэдыт для аплаты кабальных 230 даляраў. Затым Пуцін прапанаваў «кампрамісны» варыянт: у I квартале Ўкраіна купляе газ па старой цане, а з красавіка па рынкавай. У Кіеве такі мараторы палічылі прынізьлівым і палітычна нявыгадным. Украіна зноў адмовілася, а Віктар Юшчанка нават заявіў, што спрэчка паміж Кіевам і Масквой гэта «бітва за незалежнасьць значна больш цяжкая, чым на Майдане».

На канфлікт пачалі рэагаваць эўрапейскія краіны, найперш Польшча. Правалібэральная «Жэчпаспаліта» напісала: «Пазбавіцца газавага дыктату «Газпрому» ня менш важна, чым дабіцца вываду савецкіх войскаў на пачатку 1990-х».

Адзначым, што «газпромаўскі» газ задавальняе чвэрць патрэбаў Заходняй Эўропы, 80% яго ідзе праз Украіну. У выніку газавага крызысу, у Вугоршчыну пастаўкі скараціліся на 25%, Польшчу на 14%.

Зьнізіўся ціск у газатранспартных сыстэмах Аўстрыі, Францыі, Італіі, Славаччыны, Сэрбіі, Босьніі. Пачаўся скандал. На Захадзе загучалі галасы пра магчымасьць пазбаўленьня Расеі права старшынёўства ў «вялікай васьмёрцы». Сытуацыю давялося тэрмінова "разрульваць". Тут і "выплыў" варыянт, пры якім Расея фактычна будзе сама сабе плаціць за свой газ. А розьніца ў коштах будзе кампэнсаваная за кошт улучэньня ў балянс «Росукрэнэрга» туркмэнскага, узбэкскага й казаскага газу, які таньнейшы за 95 даляраў (бо ў кожным разе ўсе гэтыя "газы" йдуць ва Ўкраіну па расейскіх трубах). Гэта азначае, што на бліжэйшыя пяць гадоў «Росукрэнэрга» стане эксклюзіўным пастаўнікам усяго імпартнага газу ва Ўкраіну. А транзытны тарыф расейскага газу па тэрыторыі Ўкраіны ў Эўропу падвышаны з $1,09 да $1,6 за 1000 мі. на 100 км.

**Дык што зь "Белтрансгазам"!**

Лягічна зрабіць выснову, што раз Украіна з-за адмовы ствараць газатранспартнае СП з Расеяй ледзьве не была "пакараная", дык захаваньне мінулагодніх коштаў на газ для Беларусі (дарэчы, яны ў 4 разы ніжэй за рынкавыя) азначае, што Лукашэнка здаў "Белтрансгаз" Расеі. Зьмест падпісанага перад самым новым годам пагадненьня трымаецца ў таямніцы, аднак падобна на тое, што «Газпром» стане саўладальнікам дзяржаўнага беларускага прадпрыемства "Белтрансгаз" на ўмовах парытэту (50 на 50). Гэтае пагадненьне падпісанае пасьля некалькіх няўдалых спробаў «Газпрому» вырваць кантроль над кампаніяй «Белтрансгаз» у Аляксандра Лукашэнкі. Тымчасам украінскія СМІ друкуюць інфармацыю пра тое, што на базе "Белтрансгаза" нібыта ўжо створана газатранспартнае прадпрыемства, доля расейскага ААТ "Газпром" у якім складае 51%, доля беларускага ўрада - 49%. У гэтым жа кантэксьце можна разглядаць і заяву в.а.прэм'ера Украіны Юр'я Еханурава ў інтэрвію тэлекампаніі "5 канал" (г.Кіеў) ў сярэдзіне студзеня: *"Беларусь, у адрозьненьне ад Украіны, здала трубу, і цяпер "Белтрансгаз" не зьяўляецца іх уласнасьцю. Адсюль і такія нізкія цэны на газ для Беларусі. А мы трубу не аддамо. Той, хто аддае свой здабытак, рана ці позна будзе танчыць пад тое, што яму граюць на балалайцы"*.



Газавы транзыт адзіная на сёньня магчымасьць уплыву Беларусі на Расею. Адмова Беларусі передаць кантроль над «Белтрансгазам» на ўмовах «Газпрому» справакавала газавы крызіс у пачатку 2004 г. з часовым адлучэньнем газу для нашай краіны. Прадстаўнікі беларускага ўраду падкрэсьліваюць, што перамовы з «Газпромам» пра стварэньне СП не спыняліся, проста «не сышліся ў цане». Статутны фонд «Белтрансгазу» складае 1,15 трлн руб. ($550 млн), але рыначная цана такіх актываў нашмат вышэйшая (Лукашэнка неадназразова казаў, што "яго цана" 5 мільярдаў даляраў).

"Белтрансгаз" нядаўнаператварыўся з ААТ ў дзяржаўнае прадпрыемства як раз "пад продаж". Дык прадалі ці не? Беларускі ўрад, ад якога не залежыць нічога, і прэзыдэнт, ад якога залежыць усё, маўчаць. Ці азначае гэта, што нацыя расплаціцца газаправодамі за падтрымку Масквой Лукашэнкі ў якасьці кандыдата ў прэзыдэнты?

Калі гэта так, Беларусь страціць кантроль над сваім газавым транзітам. Калі гэта ня так, але расейскі бок лічыць, што так, то ў красавіку, адразу пасьля выбараў, нас чакае жорсткі газавы канфлікт з Расеяй.

У кожным разе, мы маем пастаўкі газу па вельмі нізкіх коштах. Тлумачэньне гэтаму можа быць адно «Газпром» атрымаў нешта ўзамен. Праўда, ніводную з ранейшых дамоўленасьцяў такога кшталту Лукашэнка ня выканаў. І гэтым можа тлумачыцца прызначэньне прэзыдэнцкіх выбараў на сакавік: як заўсёды пагуляцца некаторы час ў бізнэс-партнэра, а пасьля выбараў шчыра зьдзівіцца: мы, маўляў, нічога прадаваць не зьбіраліся. Памятаем жа гісторыю 2002 году з броварнай кампаніяй "Балтыка" й яе спробай выкупіць кантрольны пакет "Крыніцы".

Але гэтым разам «Газпром» настроены сур'ёзна. Намесьнік старшыні кампаніі Аляксандар Разанаў заявіў як пра пэўнасьць, што на працягу трох месяцаў супольнае газатранспартнае прадпрыемства расейскага ААТ «Газпром» і беларускага ўраду будзе створанае. Гэта адбылося 27 сьнежня, у часе падпісаньня, «Газпромам» і беларускім урадам пагадненьня пра цану расейскага газу для Беларусі й газавага транзыту для Расеі. У адпаведнасьці з кантрактам, «Газпром» паставіць у Беларусь газ па цане $46,68 за 1 тыс м «пры наяўнасьці тэхнічнай магчымасьці». На колькі ж тых магчымасьцей хопіць? Ня выключана, што толькі да 19 сакавіка.

**Зьміцер Дрыгайла**,
журналіст газэты "Наша Ніва"


# Помнікі Лукашэнку

*Краіна нагадвае Нью-Ёрк канца XIX -- пачатку XX ст. Гігантаманія. Не пасьпелі скончыць адзін праект, як пачалі другі. У найбліжэйшыя гады маюць узьвесьці Парк высокіх тэхналёгій, гатэль "Эўропа", спартовую "Менск-арэну", буйны спарткомплекс на месцы стадыёну "Трактар", тэлевежу. Правінцыю ашчасьлівяць некалькі лядовых палацаў.*



## Палац Рэспублікі

XXI стагодзьдзе краіна сустрэла здачай у эксплюатацыю даўгабудаў чыгуначнага вакзалу, Палацу Рэспублікі ды хакейных пляцовак.

Палац рэспублікі будаваўся амаль дваццаць год: рашэньне пра ўзьвядзеньне было прынята ў 1981 г., канчаткова здалі ў эксплюатацыю 31 сьнежня 2001 г., хоць мерапрыемствы пачалі праводзіць у 1999 г.

Дарэчы, улады савецкага часу доўга вырашалі, які з раёнаў Менску ашчасьлівіць, Цэнтральную (Кастрычніцкую) плошчу ці былы праспэкт Машэрава. Выбралі першы варыянт, "навукова падмацаваўшы": "Прастаравае рашэньне Палацу ўлічвае маштабную сувымернасьць з прасторай плошчы й навакольнай забудовай, у тым ліку гістарычнай забудовай Менску". Падобныя праекты рэалізаваныя ў іншых рэспубліках СССР, затое наш самы дарагі -- 250 млн даляраў.
Галоўнае прызначэньне палацу -- правядзеньне масавых мерапрыемстваў, такіх, як Усебеларускі народны сход, ды розных урачыстасьцяў, пачынаючы ад сьвяткаваньня 9 траўня ды сканчаючы абвяшчэньнем вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў.



## Сталічны вакзал

А міма пралятаюць цягнікі. 30 сьнежня 2000 г. гасьцінна адчыніў дзьверы новы сталічны чыгуначны вакзал. Дзеля яго пабудовы сьцерлі з твару зямлі стары будынак Віленскага вакзалу 1871 г. Той, хто называе сучасны гмах найпрыгажэйшым вакзалам Эўропы, у Эўропе ніколі ня быў. Сваімі памерамі ён хутчэй нагадвае звычайную станцыю перасадак бэрлінскага мэтро "Фрыдрыхштрасэ".
Унутранае начыньне -- справа густу. Для некага -- эклектыка ў чыстым выглядзе Хоць зь першага погляду можа ўразіць. Так студэнты зь Літвы, прыехаўшы ў Менск, некалькі хвілін як бараны стаялі перад беларускай "Вікторыяй", таропячыся на ейную прыгажосьць. Абышоўся вакзал дзяржаве у 200 млн даляраў.

## "Чупа-чупс" для інтэлектуалаў

Сёньня гэта будоўля №1. Новая нацбібліятэка ўзводзіцца з 1 лістапада 2002 г. Звычайна такія гмахі будуюць 72 месяцы (6 гадоў), але прэзыдэнт распарадзіўся ўзьвесьці за 34 месяцы. Таму плянавалася, што будынак здадуць 1 верасьня 2005 г., аднак хутка высьветлілася, што ні сам будынак, ні прылеглая тэрыторыя да ладу не даведзеныя. Цяпер абвешчана новая дата "дзяржпрыёмкі" -- 1 траўня 2006 г. Праектны кошт у пачатку будаўніцтва закладаўся ў памеры 126 млн даляраў, цяпер агульны кошт складзе 208,3 млн. Асноўнай крыніцай фінансаваньня зьяўляецца рэспубліканскі бюджэт, "добраахвотныя ахвяраваньні" ды дапамога сяброўскіх краінаў -- Ірану, Кітаю, Кубы. Кітай паставіў нам паўтары тысячы кампутараў для абслугоўваньня чытачоў.

Тых, хто ўяжджае ў Менск з боку Нацыянальнага аэрапорту, будоўля ўражвае. У спэцыялістаў жа "пасадка" ў такім месцы бібліятэкі выклікала шмат спрэчак.

У кожным разе, да адной дамінанты наваколься -- аўтавакзалу "Маскоўскі" з колавым вантавым дахам -- дадаецца другая, яшчэ лепш бачная для натаўскіх варожых самалётаў.

## Наш адказ Каліфорніі

Парк высокіх тэхналёгій у мікрараёне Уручча плошчай 50 га толькі ў праекце. Але будаўніцтва маюць скончыць да 2008 г. Мэты ПВТ надта прыгожыя рост экспарту беларускага праграмнага прадукту (350 млн даляраў у год) ды больш актыўнае яго выкарыстаньне айчыннымі прадпрыемствамі й дзяржаўнымі ўстановамі. Кошт праекту -- 930,2 млн даляраў. У выніку мусіць паўстаць цэлы горад: некалькі навукова-дасьледчых карпусоў Акадэміі навук, канфэрэнц-цэнтар зь вялікай заляй, гатэль, адміністрацыйны будынак, жылы дом. Пакуль жа тут месьціцца толькі Інстытут мікрабіялёгіі НАН.

Паводле словаў старшыні прэзыдыюму Акадэміі навук Міхаіла Мясьніковіча, ільготы для рэзыдэнтаў беларускай "крэмніевай даліны" будуць большымі, чым у Расеі, Індыі й іншых дзяржавах, што займаюцца афшорным праграмаваньнем.

Днямі Міхаіл Мясьніковіч, выступаючы перад дэпутатамі парлямэнту заўважыў, што ўжо цяпер інвэстыцыйную цікавасьць да ПВТ праяўляюць польскія, нямецкія й амэрыканскія кампаніі. У найбліжэйшыя дні пачнецца адбор кандыдатаў, што будуць працаваць у парку ў якасьці рэзыдэнтаў у машынабудаваньні, мікраэлектроніцы, бія- і нанатэхналёгіях.

## Пераплюнуць Таронта

Да сярэдзіны лютага будзе падрыхтаваны архітэктурны праект менскай тэлевежы і палічаны кошт будаўніцтва. Вежа павінна паўстаць на рагу былога праспэкту Машэрава і вул.Арлоўскай, за НВЦ "Белэкспа". Вышыня складзе 425 мэтраў -- вежа мае стаць чацьвёртай па вышыні ў сьвеце пасьля аналягічных шпіляў у Таронта, Маскве, Куала-Лумпуры.

Неабходнасьць узьвядзеньня новай вежы спэцыялісты Мінсувязі тлумачаць тым, што радыётэлевізыйная перадавальная станцыя ў Калодзішчах не адпавядае сучасным тэхнічным патрабаваньням. Новая вежа паспрые паляпшэньню якасьці тэлевізійнага вяшчаньня ў Менску й вобласьці, а колькасьць праграмаў, якія можна будзе прымаць, узрасьце да 50. Паралельна гэтая вежа мае стаць і культурна-забаўляльным цэнтрам. На вышыні 60 і 240 мэтраў будуць знаходзіцца бары й рэстараны, пляцоўкі агляду.






# Помнікі Лукашэнку

*Працяг са старонкі 14*

## АЭС

Пры канцы жніўня А.Лукашэнкам была зацьверджана канцэпцыя энэргетычнай бясьпекі краіны, якая прадугледжвае будаўніцтва АЭС магутнасьцю 2 тысячы МВт у год. Агульны кошт будаўніцтва ўсіх атамных энэргаблёкаў, згодна з афіцыйнымі разьлікамі, папярэдне складзе 3 млрд даляраў. Будаўніцтва расцягнецца на 7-8 гадоў. Пакуль разглядаюцца тры магчымыя пляцоўкі у Дубровенскім раёне Віцебшчыны, Шклоўскім і Быхаўскім на Магілёўшчыне. Матывы прыхільнікаў і праціўнікаў зразумелыя. З аднаго боку, будаўніцтва АЭС дазволіць дывэрсіфікаваць крыніцы атрыманьня Беларусьсю энэргіі ды павялічыць колькасьць уласных энэргарэсурсаў, паколькі сёньня мы надта залежныя ад расейскіх газу й нафты, стварыць новыя працоўныя месцы ў гібеючай правінцыі. З другога боку, трэба ўлічваць "чалавечы фактар": дзе гарантыя, што больш не паўторыцца Чарнобыль?

## Рыхтуемся да Белай Алімпіяды!

Цяпер у Беларусі 10 "лядовых палацаў". Будуюцца комплексы ў Баранавічах і ў Жлобіне. Так, палац у Жлобіне будзе мець аквапарк, басэйн, фізкультурныя залі, гатэль. Аб'ект каштуе 30 млн даляраў.

У паўтара разу даражэйшы футбольны манэж на былым прасэпкце Машэрава. У наступным годзе пачнецца рэканструкцыя стадыёну "Трактар". Літоўская фінансавая група UKIO Уладзімера Раманава, якая зьяўляецца ўладальнікам сталічнага клюбу "МТЗ-РІПА", укладзе 260 млн даляраў у будаўніцтва мультыспартовага цэнтру з футбольным манежам.



У дзяржавы свае пляны. Сярод праэктаў фрыстайл-цэнтр і спарткомплекс "Менск-арэна".

Нягледзячы на маштабнае будаўніцтва лядовых палацаў, Беларусь у дзясяткі, калі ня ў сотні, разоў саступае скандынаўскім краінам па колькасьці лядовых крытых пляцовак. Мы нават ня можам правесьці ў сябе чэмпіянат сьвету па хакеі ў найвышэйшым дывізіёне, паколькі ня маем неабходнай для гэтага арэны ўмяшчальнасьцю больш за 10 тыс. гледачоў, а таксама арэны на шэсьць-сем тысяч.

Вырашыць праблему мае пабудова згаданай "Менск-арэны" на 13 тыс. гледачоў, што ацэньваецца ў 105 млн даляраў. Тут таксама будзе канькабежны стадыён. Апроч хакею, канькоў і фігурнага катаньня, заля здольная будзе прыняць міжнародныя спаборніцтвы па гандболе, баскетболе, гімнастыцы й баявых відах спорту.

Таксама выношваецца праект пабудовы ў Менску фрыстайл-цэнтру. У "Цэнтры" будуць таксама басэйн з з трамплінамі для скачкоў у ваду, аквапарк, фітнэс-цэнтр. Яго агульная праектна-каштарысная вартасьць 20 млн даляраў.

## МіЖ

Усё гэта будуецца дзеля "дзякуй" ад удзячных нашчадкаў ды месца ў гісторыі для першага прэзыдэнта, які прагне застацца ў гэтай самай гісторыі ня проста *першым прэзыдэнтам*, але й прэзыдэнтам-будаўніком. Лёгіка простая: раз у краіны ёсьць сілы на маштабнае будаўніцтва, значыць, яна квітнее. Сюды дадаецца танны піяр, накшталт "падарункаў" народу на дзяржаўныя сьвяты (Новы год, 9 траўня, 7 лістапада).

Але застаецца невырашальнай іншая праблема, зрухаў у якой ні на крок. Гэта грамадзкія прыбіральні. У найбліжэйшыя пяць гадоў у Менску плянуецца рэканструяваць 14 (сёньня іх агулам у сталіцы 38), а яшчэ дадаткова пабудаваць у кожным раёне па адной, тры у цэнтры. Вось яны будоўлі першай неабходнасьці, сапраўдны паказчык высокай культуры. Пераехаў польскую мяжу – і вада, і папера, і мыла. У нас жа дзіркі ў падлозе.



# Новая беларуская радыяцыя

**Юрась Зянковіч,**
намесьнік старшыні
Менскай абласной
арганізацыі Партыі БНФ

**Пад час апошняга зьезду Партыі БНФ сярод дэлегатаў была распачата дыскусія наконт кампаніі, што праводзіць Менская абласная арганізацыя Партыі БНФ пад назвай "РЛС пагроза для Беларусі". У рамках кампаніі тры апошніх гады адбываюцца маршы навакол расейскіх стратэгічных аб'ектаў у Клецкім і Вілейскім раёнах. Гэтай публікацыяй прапануецца распачаць агульнапартыйную дыскусію навакол праблемаў знаходжаньня расейскіх вайсковых аб'ектаў у Беларусі і пазыцыі Партыі БНФ адносна іх.**

## Да гісторыі пытаньня

У 60-я гады мінулага стагоддзя СССР пачаў разварочваць першыя станцыі раньняга папярэджаньня пра ракетны напад, якія будаваліся ў рамках стратэгіі гонкі ўзбраеньняў і павінныя былі забясьпечыць тэрыторыю краіны ад удараў амэрыканскіх ядзерных ракет. У рамках гэтай жа канцэпцыі пачалося праектаваньне, будаўніцтва і разгортваньне комплексаў супрацьракетаў, якія павінныя былі наводзіцца лякатарамі станцыяў папярэджаньня і зьнішчаць варожыя ракеты на падлёце. Такія станцыі былі разгорнутыя каля Мурманску, Рыгі, Іркуцка, возера Балхаш, Мукачава, Мікалаева (РЛС "Днепр"), Пячоры, Габалы (РЛС "Дар'ял"). Плянавалася таксама збудаваць новую РЛС "Волга" каля беларускага горада Ганцавічы. Яе праектаваньне пачалося ў 1981-м годзе, а будаўніцтва – у 1986-м, аднак з-за недахопу грошаў будаўніцтва ў 1989-м годзе было замарожанае. Усю сыстэму наземных станцыяў раньняга папярэджаньня дапаўняла спадарожнікавая групоўка ў складзе 9 спадарожнікаў (на сёньняшні дзень працуе 3 зь іх). Будавалася таксама станцыя пад Краснаярскам, але яе будаўніцтва было згорнутае ў 1989-м годзе з-за таго, што яно парушала дамову пра абмежаваньне сыстэмаў супрацьракетнай абароны.

**Даведка. РЛС "Волга"**

**Месцазнаходжаньне:** мястэчка Азярэчча ў 15 км ад горада Ганцавічы, належыць да тэрыторыі Клецкага раёна Менскай вобласьці;

**Задачы:** адсочваньне пускаў стратэгічных ядзерных ракетаў на тэрыторыі Эўропы;

**Асноўныя характарыстыкі:**
Працоўны дыяпазон: дэцыметровы;
Даўжыня хвалі: 0,1 м;
Зона пакрыцьця, град: 50 град;
Тып антэны: ФАР, азымутальнае скенаваньне з дапамогай частотнай мадуляцыі;
Разнос прыймача і перадатчыка: 3 км;
Дальнасьць дзеяньня : 4800 км.

У 1972 годзе СССР і ЗША падпісалі дамову пра абмежаваньне сыстэмаў супрацьракетнай абароны. Гэтая дамова была падпісаная ў рамках агульнай палітыкі раззбраеньня, і яе ідэя зводзілася да таго, што краіна ніколі ня будзе першая атакаваць ядзернымі ракетамі свайго праціўніка, калі будзе ўсьведамляць тое, што адказ будзе адэкватны па сіле й зьнішчыць яе. Паводле гэтай дамовы СССР і ЗША мелі права пакінуць у сябе толькі па адной сыстэме супрацьракетнай абароны. СССР збудаваў сыстэму абароны горада Масквы і Маскоўскага прамысловага раёну (сыстэма А-35 у складзе станцыяў Дунай-3 і Дунай-3У, а таксама станцыя Дон-2 з комплексамі супрацьракетаў). У 1995-м годзе Расея мадэрнізавала гэтую сыстэму, якая цяпер называецца А-135. ЗША збудавалі аналягічную сыстэму абароны Вашынгтону. Усе астатнія РЛС былі пазбаўленыя магчымасьці навядзеньня супрацьракетаў, і сталі толькі адсочваць пускі ракет праціўніка.

## Масква-Рыга-Кіеў-Менск

У 1995-м годзе ўрад Латвіі запатрабаваў ад Расеі зачыніць станцыю каля горада Рыгі, а дакладней каля горада Скрундэ. Расея была вымушаная падпарадкавацца, зьнішчыўшы ўсю станцыю дашчэнту выбухам, каб "верагодны праціўнік" ня змог вывучыць яе. Адначасова, пакуль ішлі перамовы з Латвіяй, былі ініцыяваныя размовы зь беларускім урадам наконт перадачы ў арэнду аб'екта "Баранавічы", як яго называюць расейскія вайскоўцы. Яны знайшлі поўнае паразуменьне з боку А.Лукашэнкі, які перадаў расейцам участак зямлі разам зь незавершаным будаўніцтвам у бясплатнае карыстаньне на 25 год, а таксама дазволіў бясплатна карыстацца сродкамі сувязі для перадачы дадзеных са станцыі ў Маскву. За гэта беларусы атрымалі права праводзіць вучэньні зенітных войскаў на палігоне пад Астраханьню. Акрамя таго, яшчэ раней урад Кебіча перадаў у арэнду (а Лукашэнка пацьвердзіў гэтую дамову) вузел сувязі са стратэгічнымі паводнымі подкамі ў паўночнай Атлянтыцы каля горада Вілейкі. Гэты вузел дазваляе расейскім падлодкам прымаць каманды з цэнтру без усплыцьця на паверхню.

У сярэдзіне 90-х заходні і паўночна-заходні кірункі ракетнага нападу на Расею агаліліся, бо станцыя ў Скрундэ была зьнішчаная, а пад Ганцавічамі не дабудаваная. Акрамя таго, станцыі ва Украіне, Казахстане і на Далёкім Усходзе ўжо састарэлі, і не адпавядаюць сваімі характарыстыкамі патрэбам расейскай абароны. За іх знаходжаньне ўрады гэтых краінаў атрымоўваюць па 1 млн. даляраў у год арэнднай платы. Азэрбайджан жа за сваю станцыю ў Габале запатрабаваў плату ў памеры 2 млн. даляраў. Гэта, канешне, усё роўна сымбалічныя сумы, аднак нават іх уплата больна раніць гонар расейскіх вайскоўцаў.

Перад новым 2006 годзе прэзыдэнт Украіны Віктар Юшчанка заявіў, што ў адказ на газавы шантаж Расеі ўмовы арэнды станцыяў у Мікалаеве і Мукачаве могуць быць перагледжаныя, або Украіна ўвогуле можа запатрабаваць іх закрыцьця.



ЗОНЫ КОНТРОЛЯ
ГРУППИРОВКИ РАДИОЛАКАЦИОННЫХ СРЕДСТВ
СИСТЕМЫ ПРН



# Новая беларуская радыяцыя

*Працяг са старонкі 16*

Аднак, як заяўляюць расейскія генералы, на сёньняшні дзень створаныя вопытныя экзэмпляры мабільных РЛС супрацьракетнай абароны, якія можна даставіць у любое месца і закрыць дзірку ў назіраньні. Праўда, на наладжваньне сэрыйнага выпуску гэтых комплексаў расейцам трэба яшчэ 2-3 гады. Тым ня менш, Расея вельмі пакрыўдзілася на ўкраінцаў, якія паабяцалі дапусьціць амэрыканцаў на станцыі, што знаходзяцца ў іх краіне, для інспэкцыі. Маўляў, бясьпека Расеі -- гэта сьвятое, і гандлявацца ёю ў "газавай спрэчцы" нельга.

### "Наша" РЛС

Беларуская ж станцыя пад Ганцавічамі была збудаваная ў 2000-м годзе і пастаўленая на вопытна-баявое дзяжурства, а з кастрычніка 2003-га году яна працуе ў рэжыме баявога дзяжурства, што ў перакладзе на нармальную мову азначае: на поўную магутнасьць. Гэта дазволіла Расеі часткова кампэнсаваць страту станцыі ў Скрундэ. На станцыі працуе 1200 чалавек, зь якіх палова -- гэта расейскія вайскоўцы. Яны й іх сем'і карыстаюцца бясплатнай мэдычнай дапамогай у Цэнтральным клінічным шпіталі Міністэрства абароны Беларусі ў Менску, а таксама ў шпіталі памежных войскаў у Снове. Да м.Азярэчча ходзіць аўтобус, пракладзеная добрая асфальтавая дарога.Здавалася б, некалькі соцень мясцовых жыхароў працуюць на расейскім аб'екце, І гэта павінна спрыяць добраму стаўленьню насельніцтва да станцыі. Аднак, як паказвае досьвед дзьвюх кампаніяў, людзі пераважна ставяцца да яе нэгатыўна. У першую чаргу, яны адчуваюць скрытую пагрозу ад станцыі. Пад антэнай пачалі сохнуць дрэвы, прычым ад верхніх галінаў уніз. Мясцовае начальства супакойвае людзей, што гэта нейкая хвароба, аднак людзі здагадваюцца, што гэта за "хвароба". У лесе каля станцыі цяжка пачуць сьпевы птушак або пабачыць жывёлаў усё жывое сышло адсюль.

Падобныя факты вядомыя таксама азэрбайджанскім эколягам, у якіх ужо ня першае дзесяцігоддзе працуе станцыя каля горада Габалы. Азэрская апазыцыя ўжо ня першы год дамагаецца вываду расейскага аб'екта з тэрыторыі сваёй краіны. Паводле мэдыкаў, у раёне знаходжаньня станцыі назіраецца падвышанае захворваньне ракам сярод жыхароў. І, што цікава, мясцовае начальства таксама спрабуе прыдумаць нейкія прычыны ўсплёску анкалягічных захворваньняў, не бачачы іх у наступствах працы станцыі.

Якія могуць быць наступствы для Беларусі ў тым выпадку, калі наш будучы нацыянальны ўрад запатрабуе закрыцьця расейскага аб'екту? Што можа мець Беларусь ад гэтай станцыі і што можа згубіць? Як паўплывае на імідж Партыі БНФ далейшае правядзеньне кампаніі "РЛС пагроза для Беларусі"? У наступным нумары я выкладу сваё бачаньне гэтай праблемы. Аднак я хацеў бы запрасіць усіх да дыскусіі на гэтую тэму.











# 100 дзён кіраваньня *PiS*. Погляд зь Беларусі

**Зьміцер Дрыгайла**,
журналіст газэты "Наша Ніва"

Скончыліся першыя тры месяцы, падчас якіх у Польшчы валадарыць адна партыя, а фактычна два браты-блізьняты, што стаялі ля вытокаў гэтай партыі. Партнэрская БНФ партыя "Права й справядлівасьць" (PiS), перамогшы ў восеньскіх парлямэнцкіх і прэзыдэнгцкіх выбарах, апынулася, па сутнасьці, сам насам сама з сабою. Спроба кааліцыі з Грамадзянскай Плятформай (ГП) сарвалася. Фармальна ўтварыўся ўрад меншасьці. Фактычна-ж урад адной партыі партыі братоў Качыньскіх "Права й Справядлівасьць". Ва ўрадзе толькі некалькі пазыцыяў (напрыклад, МЗС ці ахова здароўя) не належаць ПіСу.

Нагадаем, правыя партыі атрымалі пераканаўчую перамогу й на парлямэнцкіх выбарах у Польшчы. З тых 460 месцаў, якія ёсьць у польскім Сойме, 322 атрымалі тры правыя партыі кансэрватыўная Права й Справядлівасьць (155), якая зьяўляецца партнэрскай партыяй БНФ „Адраджэньне", лібэральная Грамадзянская Плятформа (133) і ўльтракаталіцкая Ліга Польскіх Сем'яў (34).

У 2005 годзе ў Польшчы ўпершыню склалася так, што ў адзін год абіралі й прэзыдэнта, і абедзьве палаты парлямэнту Сойм (460 дэпутатаў па прапарцыйнай сыстэме) і Сэнат (100 дэпутатаў аднамандатнікаў). Паўнамоцтвы прэзыдэнта доўжацца 5 гадоў, парлямэнту 4, то-бок раз на 20 гадоў такое цяпер будзе адбывацца (адлік ідзе зь 1989 году, калі адбыліся першыя адносна свабодныя выбары).

У 1990 годзе першым прэзыдэнтам III Рэчы Паспалітай стаў кандыдат „Салідарнасьці" Лэх Валэнса, у 1995 г., а затым і ў 2000 г. перамогу сьвяткаваў прадстаўнік пост-камуністаў Аляксандр Квасьнеўскі. Зараз перамогу ізноў атрымаў правы кандыдат.

Такім чынам, канфігурацыя для ПіС стабільная. ПіС маналіт, кіраваны жалезнай рукой Яраслава Качыньскага - сапраўднага майстра палітычных гульняў. Зараз ён камбінуе, спрабуючы прыбраць з палітычнай сцэны партыі-сатэліты, сваіх „малодшых палітчыных канкурэнтаў", і стварыць стабільную двухпартыйную сыстэму, у якой ПіС выступае правобразам Рэспубліканскай Партыі ЗША ці Кансэрватыўнай Партыі Вялікай Брытаніі. Зараз ПіС трымае такім чынам „за горла" Лігу Польскіх Сем'яў (ЛПС), а таксама сацыялістаў з Саюзу Лявіцы Дэмакратычнай (СЛД). Адзінае, каго перапапулізаваць цяжкавата гэта лідэра Самаабароны Анджэя Лепэра. Яго зараз спрабуюць „сьпіхнуць на маргінэс", а з Грамадзянскай Плятформы зрабіць лева-лібэралаў.

Як гэта магчыма? 23 сьнежня ўступіў у свае правы Лех Качыньскі. Парлямэнт працуе без вялікіх скандалаў. І калі пасьля выбараў казалі, што ўрад меншасьці доўга не пратрывае, дык зараз, хіба, большасьць разумее, што ПіС гэта ўсур'ёз і надоўга. Партыя дагэтуль нічога ня страціла ў сваіх пазыцыях, нават дадаўшы да сабе 5-7% прыхільнікаў. А наступныя выбары адбудуцца толькі ўвосень 2006 года у мясцовыя органы ўлады. Існуе, праўда, варыянт датэрміновых парлямэнцкіх выбараў.

Ідучы на гешэфты з ЛПС і іншымі дробнымі партыямі, ПіС адцягвае іх электарат да сабе. Займаючы пасады ва ўрадзе й парлямэнце, Самаабарона і ЛПС адначасова й непазьбежна трацяць свой электарат, зьліваючыся зь ПіС (электарат меншых распушчаецца ў электараце большых), і калі-б выбары адбываліся сёньня, дык ПіС атрымаў бы 43%. Зразумела, што лібэральным асяродкам, блізкім да Плятформы, гэтыя гульні рэзка не падабаюцца, але яны нічога зрабіць ня ў стане, бо пасьля прэзыдэнцкіх выбараў сваімі рукамі адсеклі сябе ад рэальнай палітыкі, не пагадзіўшыся ўвайсьці ва ўрад (ПіС прапаноўваў парытэт 8 + 8) і зацягнуўшы гандаль з кіраўніцтвам парлямэнту. Вось і двухпартыйная сыстэма. Так што ініцыятыва Качыньскага „разваліць" астатнія партыі.

Гэнкім парадкам, ПіС доўга фармуе ўрад, новы адміністратыўны апарат паўстае вельмі марудна, бо ПіСаўцы рэзонна не давяраюць большасьці чынавенства па краіне, якое засталося ад лявіцы. Пакрысе адбываецца замена супрацоўнікаў у міністэрствах і ведамствах. Лявіца, дарэчы, досыць спакойна прымерыла да сябе адзеньне апазыцыі і заняла вельмі зручнае суцэльна крытычнае стаўленьне. Такая пазыцыя, лічаць стратэгі сацыял-дэмакратаў, у пэрспэктыве толькі дадасьць ім галасоў. Ад пачатку такі сцэнарый прапанаваў нядаўні лідэр левых Уладзімеж Цімашэвіч заявіўшы, што пасьля ўласнага сыходу з прэзыдэнцкай кампаніі ён ня будзе галасаваць увогуле з прычыны „нябачнасьці дастойных кандыдатаў". Такім чынам, уся праца лявіцы зараз зводзіцца да наступнага: крытычны маніторынг крокаў ПіСу й Плятформы; адсочваньне іх праграмы й зьменаў у ёй, аб'яднаньне ўсіх левых сілаў

# 100 дзён кіраваньня *PiS*. Погляд зь Беларусі

з пэрспэктывай поўнага паяднаньня да мясцовых выбараў; атрыманьне максымуму месцаў у гмінах, паветах і ваяводствах; пазыцыянаваньне сябе як патэнцыйнага сябра чалавека ва ўладзе. Плюс канцэпцыя абнаўленьня, якую ўвасабляе сабой новы малады лідэр Януш Аляйнічак.
Эканамічную праграму ПіС левыя амаль не крытыкуюць. Бо, як ні дзіўна, у Права й Справядлівасьці лева-цэнтрысцкая эканамічная плятформа: па-першае, ПіС выступае не за лінейны, а за прапарцыйны падаходны падатак. Калі сказаць коратка, дык кіраўнікі ПіСу лічаць, што „багатыя павінны плаціць у бюджэт болей", па-другое, яны выступаюць за падатковыя ільготы й дзяржаўную дапамогу бедным, і па-трэцяе, не зьбіраюцца адмаўляцца ад польскага злотага (лібэральная Грамадзянская Плятформа, наадварот, агітавала за памяншэньне ролі дзяржавы, увядзеньне эўра й адзінай стаўкі падатку ў 15% для ўсіх).

"Грамадзянская Плятформа" пасьля выбараў стаяла на мяжы расколу. Асноўны канфлікт быў паміж Дональдам Тускам і Янам Ракітам. На Туска склалася адказнасьць за тое, што здарылася. Зараз жа спэцыялісты з "Грамадзянскай плятформы" распрацавалі эканамічную праграму, стварылі ценевы кабінэт на чале зь Янам Ракітам. Такое сабе „якой магла-б быць эканамічная праграма, калі-б ГП прыйшла да ўлады". І адначасова гэтая праграма была прапанаваная ПіСу маўляў, бярыце, карыстайцеся: у ПіСу-ж эканамічная плятформа відавочна слабейшая за Плятформу з-за нашмат меншай колькасьці абазнаных эканамістаў.

А што-ж сам ПіС? Рэзанансных скандалаў за гэтыя тры месяцы не адбылося. За гэты пэрыяд было анансавана некалькі ініцыятываў. Першая зь іх люстрацыя (прадстаўнікоў, што працавалі на польскую дзяржаву часоў ПНР), скасаваньне люстрацыйнага суда й перадача гэтай галіны ў Інстытут Нацыянальнай Памяці. Пайшлі чысткі ў органах унутраных справаў і спэцслужбаў, якія працавалі ў часы ПНР, але не на ўрадавым, а на ведамасным узроўні. Таксама была агучана громкая ініцыятыва сумесна з ЛПС пра выплату дапамог пры нараджэньні дзіцяці роўных і аднолькавых. Фактычна, праўда яна (часова?) сышла на „не", бо ў тым выглядзе, у якім яна прапаноўвалася гэта 500 злотых на дзіця (недзе па 165 даляраў) і то толькі ў тых сем'ях, дзе даход вельмі малы.
У прынцыпе-ж адбываецца тое, што й абяцалі прадстаўнікі Права й Справядлівасьці ў першую чаргу ачышчэньне грамадзтва, падтрымка сям'і й прасямейная палітыка. У праекце бюджэту на бягучы год закладзеныя значна большыя сродкі на культуру, навуку, музеі.

У дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў згодна з законам зьменаў не было прадугледжана. Але неафіцыйна ПіСаўскі ўрад хоча дамовіцца зь беларускай меншасьцю, якая традыцыйна левая, пра тое, каб паспрабаваць перацягнуць яе на свой бок цераз зносіны з правымі коламі беларускай дыяспары, што з большага знаходзіцца пад дахам Саюза Беларусаў Польшчы (арганізацыяй кіруе Яўген Вапа). У гэтым рэчышчы трэба разглядаць візыт на Беласточчыну пад праваслаўнае Божае Нараджэньне прэм'ер-міністра Польшчы Казімежа Марцінкевіча, яго сустрэчу з прадстаўнікамі беларускай супольнасьці, а таксама з адзіным прэтэндэнтам ад дэмакратычных сілаў Аляксандрам Мілінкевічам. Ёсьць спадзевы, што, нарэшце адбудуцца пэўныя пазытыўныя зрухі са справай „Нівы" газэты беларусаў Польшчы, якую некалькі месяцаў таму абвінавацілі ў фінансавых махінацыях. Магчыма, ад урадавых колаў Польшчы паступіць прапанова яе перагледзець. Адначасова на Беласточчыне ў цэрквах сталі прамаўляць казаньні па-польску (раней было па-расейску). Пытаньні ж адкрыцьця ў Варшаве „Беларускага дому" пакуль так і "вісяць ў паветры".

Але, што праўда, новы прэзыдэнт, урад і парлямэнт суседняй краіны выразна падтрымліваюць аб'яднаныя дэмакратыяныя сілы. Падчас візыту Аляксандра Мілінкевіча ў Варшаву, які адбыўся на мінулым тыдні й праходзіў на афіцыйным (!) узроўні, прэзыдэнт Лех Качыньскі выказаў надзею на перамогу Аляксандра Мілінкевіча й падкрэсьліў, што Польшча будзе садзейнічаць працэсу дэмакратызацыі Беларусі. Тое самае прагучала з вуснаў сьпікера Сэйму Марка Юрэка. У Сэйме Мілінкевіча сустрэлі авацыяй і вялікім бел-чырвона-белым сьцягам. Аляксандр Мілінкевіч стаў першым грамадзянінам Беларусі, які выступіў з трыбуны парламэнту суседняй дзяржавы.

Зазначым таксама, што апроч Мілінкевіча з Качыньскім сустрэўся й старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка.





# Каляндар падзеяў на 2006 год

(складзены газэтай "Наша ніва")

**Студзень**
**1** Новы год.
**6** Сьвята Трох Каралёў у каталікоў.
**7** Нараджэньне Хрыстова ў праваслаўных.
**10** Курбан-байрам у мусульман.
**19** Вадохрышча ў праваслаўных.
**31** Новы, 1427-мы год у мусульман.

**Люты**
**2** Грамніцы ў каталікоў.
**4** 75 гадоў з дня сьмерці гісторыка Ўсевалада Ігнатоўскага, першага прэзыдэнта Акадэміі навук Беларусі (1881-1931). Ён застрэліўся, каб унікнуць арышту саветамі.
**15** Грамніцы ў праваслаўных.
**17** 200 гадоў таму (1806) нарадзіўся заснавальнік беларускай археалёгіі Канстанцін Тышкевіч.

**Сакавік**
**1** Папяльцовая серада ў каталікоў.
**1** 125 гадоў з дня забойства цара Аляксандра II беларускім нарадавольцам Ігнатам Грынявіцкім (1881).
**4** 50 гадоў таму ў Беластоку пачала выходзіць газэта «Ніва» (1956).
**11** 100 гадоў таму (1906) у Менску павешаны Іван Пуліхаў
**19** 75 гадоў з дня нараджэньня літаратуразнаўцы Генадзя Кісялёва (1931).
**19** Прэзыдэнцкія выбары.
**25** Дзень Незалежнасьці (Дзень Волі).
**25** Зьвеставаньне ў каталікоў.

**Красавік**
**7** Дабравешчаньне ў праваслаўных.
**9** Пальмавая нядзеля ў каталікоў.
**11** Дзень нараджэньня прарока Мухамада ў мусульман.
**13** Пэсах у габрэяў.
**16** Вялікдзень у каталікоў і пратэстантаў.
**16** Вербная нядзеля ў праваслаўных.
**19** 125 гадоў з дня нараджэньня Ўсевалада Ігнатоўскага.
**23** Вялікдзень у праваслаўных.
**29** 75 гадоў з дня сьмерці акадэміка Яўхіма Карскага (18611931).
**30** 125 гадоў таму (1881) нарадзіўся паэт Янка Журба.

**Травень**
**1** Дзень працы.
**2** Радаўніца.
**9** Дзень Перамогі над нацызмам.
**25** Ушэсьце ў каталікоў.

**Чэрвень**
**1** Ушэсьце ў праваслаўных.
**4** Сёмуха ў каталікоў.
**9** 125 гадоў з дня нараджэньня пачынальніка беларускага нацыянальнага руху Івана Луцкевіча (1881-1919).
**11** Сёмуха ў праваслаўных.
**18** 175 гадоў таму (1831) нарадзіўся рэвалюцыянэр Міхал Валовіч.
**20** 400 гадоў таму пачалося мяшчанскае паўстаньне пад кіраўніцтвам Стахора Мітковіча ў Магілеве (1606).
**23** Купальле.
**24** Сьвяты Ян у каталікоў.
**29** Сьвятыя Пятро і Павал у каталікоў.

**Ліпень**
**7** Іван у праваслаўных.
**12** Сьвятыя Пятро й Павал у праваслаўных.
**15** Дзень Грунвальдзкае бітвы.
**15** 400 гадоў з дня нараджэньня галяндзкага мастака Рэмбранта (16061669).
**26** 150 гадоў з дня нараджэньня драматурга Джорджа Бэрнарда Шоў (18561950).
**27** Гадавіна прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі.

**Жнівень**
**5** 500 гадоў Клецкай бітвы. Войска ВКЛ на чале з Станіславам Кішкам і Міхаілам Глінскім разьбіла ўшчэнт татараў.
**13** 50 гадоў таму памёр Якуб Колас.
**15** Прачыстая ў каталікоў.
**15** 175 гадоў з дня нараджэньня паэта й журналіста Вінцэся Каратынскага (1831-1891), сакратара Ўладзіслава Сыракомлі.
**19** Яблычны Спас у праваслаўных.
**28** Прачыстая ў праваслаўных.
**29** 250 гадоў таму нарадзіўся астраном Ян Сьнядэцкі.
**18** 75 гадоў з дня нараджэньня паэта Анатоля Вярцінскага (1931).
**23** 100 гадоў з дня выхаду першага нумару «Нашай Нівы» (1906).
**27** Дзень Герояў (Дзень Слуцкага збройнага чыну).

**Верасень**
**1** 100 гадоў таму ў Вільні выйшла першая легальная беларуская газэта «Наша доля» (1906).
**6** 400 гадоў таму (1654) памёр Піліп Абуховіч, ваявода віленскі і смаленскі, пісар літоўскі. Кіраваў абаронай Смаленску ў 1654 г.
**24** пачатак Рамазану ў мусульман.
**30** Рош-Ашонэ (Новы год) у юдэяў.
**30** 75 гадоў з дня нараджэньня народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча (1931).

**Кастрычнік**
**14** Пакроў у праваслаўных.

**Сьнежань**
**15** Ханука ў юдэяў.
**23** 175 гадоў таму (1831) загінула Эмілія Плятэр.
**25** Божае нараджэньне ў каталікоў.

## Юбілеі году

**1581** Пінск атрымаў герб.
**1581** заснаваньне ў Полацку езуіцкага калегіюму.
**1631** заснаваны праваслаўны Куцеінскі манастыр пад Воршай.
**1881** у Менску створана падпольная друкарня народніцкай арганізацыі «Чорны перадзел».
**1881** у Пецярбурскім унівэрсытэце створана нелегальнае беларускае студэнцкае зямляцтва.
**1906** нарадзіліся паэты Андрэй Александровіч, Сяргей Новік-Пяюн, гісторык Аляксандра Бэргман.
Травень 1906 у Пецярбургу заснавана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца».
**1931** у Вільні Рыгор Шырма заснаваў хор Беларускага саюзу студэнтаў.
**1931** Антон Луцкевіч і Лукаш Дзекуць-Малей выдрукавалі поўную вэрсію Новага Запавету.